# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(66) Ліпень 1999 July Год выд. 7.


## 20-га ЛІПЕНЯ 1999 ГОДУ — ТЭРМІН СКАНЧЭНЬНЯ ЛЕГІТЫМНЫХ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ПАЎНАМОЦТВАЎ А. ЛУКАШЭНКІ... ШТО БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА Ў БЕЛАРУСІ ПАСЬЛЯ ГЭТАЕ ДАТЫ — ЦЯЖКА СКАЗАЦЬ...

*Выступаючы на сэсіі парлямэнцкага сходу саюзу Беларусі і Расеі, прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што Беларусь перагледзіць сваю зьнешнюю палітыку, ліквідаваўшы "дзікі крэн на ўсход". Лукашэнка абвінаваціў Крэмль ў прамых спробах дэстабілізацыі ягонай улады.*

Як ні дзіўна, але галоўным аб'ектам крытыкі ў сваёй прамове прэзыдэнт абраў саюзьніка - Расею. Ён абвінаваціў расейскае кіраўніцтва ў зрыве раней дасягнутых дамоўленасьцяў у справе інтэграцыі.

Паводле прэзыдэнта, мытныя тарыфы Масква прымае без узгадненьня з Менскам, дамова аб экспартным кантролі не працуе па віне Расеі, расейскі бок зацягвае прыняцьце канцэпцыі аб увядзеньні адзінай валюты. Паводле словаў Лукашэнкі, расея ў аднабаковым парадку аднавіла мяжу зь Беларусьсю.

У тым, што не атрымліваецца стварыць адзіную дзяржаву па беларускай мадэлі, беларускі лідэр таксама абвінаваціў Маскву.Ён паведаміў, што беларускі бок прапаноўваў стварэньне агульнай дзяржавы з моцнымі наднацыянальнымі органамі. Але Крэмль адхіліў гэты варыянт. Лукашэнка падкрэсьліў, што лічыў і лічыць найбольш прымальным для саюзнай дзяржавы прэзыдэнцкую форму кіраваньня. Але, па словах прэзыдэнта, расейскі бок з гэтай думкай не пагадзіўся. Была адхіленая нават прапанова часова аддаць пасаду саюзнага кіраўніка прэзыдэнту Расеі.

Прэзыдэнт Беларусі не хаваў крыўды. Ён сказаў, што ягоны сёняшні выступ перад парлямэнцкім сходам апошні. Паводле ягоных словаў, ён забараніў і беларускім чыноўнікам выступаць з новымі інтэграцыйнымі ініцыятывамі. Лукашэнка сказаў: "У кіраўніцтва Расеі ўзьнікла ўражаньне, што мы, беларусы, зьлезьлі з дрэваў, усю кару на вершалінах гэтых дрэў абгрызьлі, лісьце аб'елі, сёньня харчуемся немаведама чым, і мы рвемся, толькі б аб'яднацца з Расеяй. Гэтае ўяўленьне абражае нашую нацыянальную годнасьць".

Скаргі беларускі кіраўнік спалучаў з пагрозамі ў адрас няўдзячнага саюзьніка. Ён заявіў, што калі Беларусь будзе дзейнічаць на падставе міжнародных правілаў у дачыненьні да Расеі, Беларусы здолеюць коштам аднаго толькі транзіту забясьпечыць сябе. Ён таксама паведаміў, што даў загад МЗС тэрмінова палепшыць адносіны з усімі суседзямі і з заходнімі краінамі. "Мы моцна памыліліся, зрабіўшы дзікі перакос на Ўсход" - канстатаваў Лукашэнка, і зьвяртаючыся да расейскіх дэпутатаў дадаў: "Няўжо вы думаеце, што я буду трымаць краіну ў падвешаным стане? Нібыта і Расеі мы сёньня непатрэбныя, і аднчасна сапрсавалі адносіны з Захадам".

Лукашэнка абвінаваціў Крэмль і ў прамых спробах дэстабілізацыі ягонай улады. Ён заявіў, што людзі з атачэньня Барыса Ельцына далі паўтары мільёны даляраў на правядзеньне альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі 16 траўня. Лукашэнка дадаў, што ў Крамлі распрацоўваецца канцэпцыя, каб не пускаць яго ў Расею.

Прэзыдэнт даволі крытычна ацаніў варыянт аб'яднаньня, прапанаваны расейскім бокам, і выказаў меркаваньне, што ў Расеі ў чарговы раз, як гаворыцца, "захварэюць на інтэграцыю" толькі пасьля думскіх і прэзыдэнцкіх выбараў.

Лукашэнка лічыць, што, наадварот, выбары ёсьць найбольш прымальная сытуацыя, каб прасунуць інтэграцыю. "Другой такой нагоды боллш ня будзе" - заявіў прэзыдэнт Беларусі на заканчэньні свайго выступу на сэсіі парлямэнцкага сходу саюзу Беларусі і Расеі.



**Спадар Сыльвэстар БУДКЕВІЧ — ведамы і дзейны беларускі грамадзка-рэлігійны і палітычны дзеяч у Англіі. Вялікі патрыёт свайго народу. Адзін з першых заснавальнікаў ЗБВБ. Шматгадовы старшыня Аддзелу ЗБВБ у Coventry.**

**Дарагі Сыльвэстар! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



З выступу Лукашэнкі можна было зрабіць выснову, што расейскае кіраўніцтва — ці не галоўны ягоны вораг, галоўная перашкода на шляху зьдзейсьненьня ягоных плянаў. І ад просьбаў і прапановаў ён ужо пераходзіць да пагрозаў у адрас Крамля, які не жадае адчыняць беларускаму прэзыдэнту шлях на Маскву.

А сваіх намераў Лукашэнка ўжо не хавае. Два дні таму ў інтэрвью ОРТ ён заявіў, што жадае паспаборнічаць з Ельцыным за пасаду прэзыдэнта саюзу. *Юрка Дракахруст*

Вышэй прыведзены матэрыял паводле радыё "Свабода" падаём дзеля звычайнага інфармаваньня нашых чытачоў. На нашу думку гэтыя выказваньні Лукашэнкі, — яшчэ адна ягоная "ўспышка"...



**Наша АНКЕТА:**

**Ці, на Вашу думку, прэзыдэнт А. Лукашэнка сьвядома і пасьлядоўна намагаецца зьнішчыць незалежнасьць і дзяжаўнасьць Беларусі?**

**ТАК** або **НЕ**

**Чакаем на вынікі апытаньня!..**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАГЛЯД

Масей СЯДНЁЎ (ЗША)

# ЯК ЗРАБІЦЬ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАРУСАМІ



Гэта не фельетон. Хоць у гэтым "зрабіць" ёсьць нешта несамавітае, бо-ж сваёю прыродаю мы — беларусы і навошта яшчэ рабіць нас беларусамі, мы ўжо зробленыя. Як народ. Як нацыя. З сваёю мовою, з сваімі звычаямі, з усімі сваімі свомасьцямі. Праіснавалі на сваёй зямлі не адно тысячагодзьдзе. Мы на самай справе **тутэйшыя** без двукосьсяў. Мы — старая нацыя.

Але пракуднае слова "зрабіць" навяло мяне на ня менш пракуднае "перарабіць". Нас, старую нацыю, нас, абарыгенаў, з сваёю спрадвечнай моваю, з сваім ладам жыцьця, багатай гісторыяй, нашыя мацнейшыя суседзі — заходнія і ўсходнія — на працягу стагодзьдзяў намагаліся **перарабіць**, дапасаваць нас да свайго, чужога нам, сьветапогляду. І трэба сказаць, часам ім гэта ўдавалася: у выніку розных вуніяў, далучэньняў, падзелаў нямала нашых выдатных сыноў здрадзіла свайму народу, перайшло на службу нашых прыгнятальнікаў. У нашай гісторыі, нажаль, мела месца такая ганебная зьява, як **здрада**. Здрада верхняй часьці нашага народу інтарэсам сваёй-жа нацыі. Але — і гэта сьведчыць пра неўміручасьць нашай нацыі — яна істотна, у сваёй існасьці засталася некранутай, засталася нацыяй, хоць — гістарычна — і нешчасьлівай: страціўшы сваё гаспадарства, Вялікае княства Літоўскае, нашая нацыя перыядычна апынялася ў складзе Польшчы і Расеі, змушаная была траціць свой патэнцыял, сваю баявую сілу, як кажацца, на чорта лысага, браць збройны ўдзел пад чужымі штандарамі, што — у выніку — замаруджвала пабудову свайго нацыянальнага гаспадарства. Гэта ўсё вялікія, неабарачальныя выдаткі, якія мы панесьлі, будучы ў складзе прыродна чужых нам гаспадарствах. Гэтая акалічнасьць — існаваньне ў дзьвюх дзяржавах — абумовіла і два накірункі ў падыходзе да пытаньня дзяржаўнага нацыянальнага будаўніцтва — заходні і ўсходні накірунак. Інакш кажучы, абумовіла арыентацыю на Польшчу ці на Расею. Зазначу тут у дужках, нехта з нашых дзеячоў назваў **арыентацыю** беларускай хваробай. Заходні і ўсходні накірункі даюць сябе выразна адчуць і ў нашай сёньняшняй нацыянальнай палітыцы. Возьмем для прыкладу БНФ. Ён заходняга накірунку. Бачыць Беларусь у садружнасьці з эўрапейскімі дзяржавамі, у прыватнасьці з Польшчай. Гэтую арыентацыю БНФ падкрэсьліў на самым пачатку фактам устаноўчага сходу, што адбыўся не ў Беларусі, а вонках яе. Гэта разьлік на дапамогу Захада. Апалагеты-ж усходняга накірунку інакш і не ўяўляюць Беларусі як толькі ў складзе Расеі. Супрацьстаяньне гэтых накірункаў набывае сёньня асаблівую вайстрыню, выклікае ў грамадзтве разбежнасьць у падыходзе да пытаньня беларускай дзяржаўнасьці, што аніяк не спрыяе вырашэньню гэтага пытаньня.

Мы гаворым тут аб накірунках у беларускім нацыянальным руху. А, уласна, як узьнік, з чаго пачаўся гэты рух? Як паўстала беларускае пытаньне? Нехта з расейскіх гісторыкаў абазначыў беларускае пытаньне як польскую інтрыгу. Ня будзем уваходзіць у разгляд гэтага цьверджаньня. Зазначым толькі, што беларускае пытаньне пачалося... з чаго-б вы думалі? — з **антымаскальства,** з антырускасьці. Прыгадаем тут нашу шляхоцкую літаратуру, палітычна яна — антымаскальская, яна супраць маскаля. Мы гаворым ужо тут пра антымаскалізм "Мужыцкай праўды", дый самога Кастуся Каліноўскага. Тут можна было-б прыгадаць нават "Нашу ніву".

Сваімі гэтымі спасылкамі нам хацелася ўказаць на вытокі, генэзіс беларускага пытаньня, а заадно і заходняга накірунку ў нашым нацыянальным руху.

Гістарычная роля заходняга накірунку палягае ў тым, што ён, ягоныя дзеячы, сфармавалі ідэю самастойнай беларускай дзяржавы ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі /БНР/. Творцамі беларускай сацыялістычнай дзяржаўнасьці —БССР — былі якраз левакі, але і ў такой форме дзяржаўнасьці яны ўгледзелі небясьпеку для сябе і тое, што выглядала ў 20-я гады нейкім зародкам беларускай дзяржаўнасьці, было бязьлітасна зьнішчана пад шыльдай змаганьня з буржуазным нацыяналізмам. Розьніца паміж заходнім і ўсходнім накірункам палягае ў тым, што, калі першы стаўляе пытаньне беларускай дзяржаўнасьці, дык другі яго пасутнасьці здымае.

Гаворачы пра кірункі ў нашым нацыянальным руху, даводзіцца сьцьвердзіць, што пытаньне беларускай дзяржаўнасьці можа быць вырашана толькі на філасофскай аснове — калі ён толькі мае такую філасофію — заходняга накірунку, бо-ж ён **стаўляе** пытаньне беларускай дзяржаўнасьці. Але слабасьць гэтага накірунку палягае ў тым, што ідэя беларускай дзяржаўнасьці ляжыць пакуль што ў плашчыні тэарэтычнай — рэалізаваць ён яе ня можа дзеля адсутнасьці дастатковай падтрымкі з боку беларускага насельніцтва. Дзеля гэтага ён шукае падтрымкі звонку. Прыгадаем, рэальнай улады БНР не займела дзеля таго, што яна не атрымала падтрымкі ні звонку, ні знутры.

Усходні накірунак ні пры ніякіх умовах ня можа разьвязаць пытаньня беларускай дзяржаўнасьці дзеля больш як двухвяковага знаходжаньня Беларусі ў складзе расейскай імпэрыі, дзеля моўнага і этнічнага фактараў, дзеля моцных асыміляцыйных працэсаў, і ў выніку — дзеля нашай слабой нацыянальнай сьвядомасьці. Гэтая акалічнасьць спрычыняецца да таго, што бальшыня беларускага насельніцтва ставіцца, напрыклад, абыякава, а то і варожа да палітыкі БНФ. БНФ і блізкія яму партыі не знаходзяць патрэбнай падтрымкі для ажыцьцяўленьня сваёй дзяржаўніцкай палітыкі.

Дзе-ж тады выхад? БНФ — носьбіт ідэі незалежнай Беларусі — у моц недастатковай падтрымкі насельніцтва ня можа практычна ажыцьцявіць сваёй незалежніцкай ідэі, а лідэры ўсходняй, русацяпскай плыні, якія маглі-б мець патрэбную падтрымку, пытаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі сур'ёзна ня ставяць. Ствараецца нібы тупіковае палажэньне, з якога няма выхаду. Дык што, ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі мёртвая? Практычна недасягальная? Не, не, гэтага мы ня хочам сказаць. Ёсьць усе шансы для пабудовы незалежнай, самастойнай беларускай дзяржавы, у форме Рэспублікі Беларусь. Што для гэтага трэба зрабіць? Прыняць пад увагу **рэальны** стан нашай нацыі, з еймі ўсімі асаблівасьцямі — якімі-б яны ні былі, трактаваць нашую нацыю, як адзінае цэлае, зрокшыся як заходняга, так і ўсходняга накірункаў, яны толькі дзеляць нашую нацыю і тармозяць пабудову нашай дзяржавы. Нас ня трэба **перарабляць** — досыць ужо нас перараблялі, падганяць нас пад тую ці іншую праграму. Не народ мусіць падладжвацца пад лідэра ці лідэраў, а лідэр мусіць ведаць свой народ, і ўлічваць ягоныя патрэбы, у тым ліку **нацыянальныя.** Бо-ж цяжка ўявіць палітыка, які не сыходзіў-бы з **рэальнага** палажэньня свайго грамадзтва. Беларуская нацыя, што вытрымала не адно нашэсьце з заходу і ўсходу, мае дастатковыя рэсурсы — перш за ўсё волю — для наладжаньня свайго жыцьця па свайму 'вобразу і падобію', у тым ліку дзяржаўнага жыцьця. Трэба спыніць "філасофію" пакорлівасьці, рахманасьці і бязвольнасьці беларускай нацыі, трэба спыніць хаўтурныя песьні па ёй. Паводле свайго гарту і вытрываласьці ці знойдзецца яшчэ такая нацыя, як нашая? На чале нашага народу павінен стаць чалавек, які з дзяржаўнай вышыні акінуў-бы сваім арліным, мудрым зрокам усю Беларусь, у тым ліку чарнабыльскую Беларусь, і павёў-бы яе за сабой. На чале нашага народу павінен стаць Правадыр, што змабілізаваў-бы нацыянальныя рэсурсы, якія ў нас ёсьць, на пабудову свайго Дому, свайго Гаспадарства, вывеў нас з той немачы, у якой мы цяпер знаходзімся. Беларусь **жджэ** такога Правадыра. Ці ён прыйдзе? Упэўнены, **прыйдзе.** Ён павядзе за сабой і аб'ядае ўсе расцярушаныя сілы нашага народу на галоўную мэту — наладжаньня прыстойнага жыцьця на нашай зямлі. Здадуцца недарэчнымі прэтэнзіі нашых дробных, амбітных палітыкаў, нат сьціхне плач па роднай беларускай мове — яна станецца бяз гэтага плачу **дзяржаўнай,** бо Правадыр ня можа не ўлічваць і **гэтай** патрэбы, як і іншых патрэбаў насельнікаў беларускай зямлі, у тым ліку патрэбаў народнасьцяў, што жывуць на нашай беларускай зямлі. На заклік Правадыра адгукнуцца беларускія сэрцы, актывізуецца воля беларусаў, загаворыць, дасюль маўклівая нацыянальная **гордасьць.** Спантанна. Свабодна. І мы пабачым, што **перарабляць** нас абсалютна няма ніякай патрэбы. Мы сьвядомыя сябе самых, гордыя сваёй гістарычнай місіяй.

Глен Коў, 1999.

## СЁЕ — ТОЕ...

Калі ў пісьменьніка Леаніда Галубовіча запыталі, што адбываецца з беларускім народам? — ён адказаў: Нічога не адбываецца. Мы нібы стаім у балоце. Ды і самай краіны не існуе — яна нейкая міфічная, У нашага народа няма цьвёрдага пункту апоры. Мы заўсёды хілімся — то да Польшчы, то да Расеі... Чакаем, пакуль па нашай зямлі, з канца ў канец, пройдзе Напалеон, потым немцы туды і назад, а самі ў гэты час хаваемся ў лесе і чакаем, калі гэта скончыцца. Вы думаеце, беларускі народ быў такім геройскім у часе вайны? "Мая хата з краю" — гэта абсалютна беларуская прыказка. Не дапамог нам і сувэрэнітэт: мы ад 1991 году так і не адчулі сябе незалежнай краінай і незалежнымі людзьмі... І калі сёньня 50% насельніцтва Беларусі гатовыя прагаласаваць супроць Лукашэнкі, унутрана яны яшчэ не народ. Нашы людзі прадаўжаюць шукаць для сябе пана і ацэньваюць уладу толькі з пункту гледжаньня таго, які пан будзе лепшы, а які горшы. На справе нікога не цікавіць, будзе гэтая зямля Беларусьсю, ці яна акажацца пад Расеяй ці Польшчай... Калгаснай яна будзе, ці ўласьніцкай... У людзей няма адказнасьці за сваю будучыню...



СТРАШЫДЛА ДЛЯ НАТО

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ,**
доктар, прафэсар, дэпутат
Вярхоўнага Савета.

*"Народная воля"*

# ... ХТО ВІНАВАТЫ і ХТО КАГО БАІЦЦА

Хто толькі не імкнуўся зрабіць вінаватым ва ўсіх нашых недарэчнасцях народ. Спеліся ў гэтым, як тое ні дзіўна, і расійскія шавіністы, і камуністы-інтэрнацыяналісты, і прыхільнікі беларускай незалежнасці.

"Чаго народ заслугоўвае, тое і мае", "нашу супольнасць нельга лічыць народам, бо яна перажывае пераходны перыяд", "тое, што нехта называе народам, мала адрозніваецца ад чарады птушак або рыб ці групы выпадковых людзей на тралейбусным прыпынку", "беларускі народ не мае гістарычнага вопыту дзяржаўнасці", "мы — частка вялікага рускага народа", "які народ, такі і прэзідэнт" і г.д. і г.д. Усё гэта пішуць людзі адукаваныя, прылічваючыя сябе да інтэлігенцыі, частка — да беларускай інтэлігенцыі. **Сярод іх знайшліся і "навукоўцы" — нашчадкі і былыя спецыялісты па гісторыі КПСС, якія перарадзіліся ў палітолагаў і сацыёлагаў і ўцёрліся ў давер замежных спонсараў. Менавіта на падставе іх "даследаванняў" нямецкі журналіст Клаўс Бахман прыйшоў да высновы, што беларускі народ больш антыдэмакратычны, чым беларускі прэзідэнт (Rzeczpospolita, N31, 6—7.02.1999).**

Заўзятым расійскім імпершчыкам хацелася б прыгадаць, што рускія і наогул расіяне ніколі не скардзіліся на тое, што кепска адчуваюць сябе сярод беларусаў на беларускай зямлі. Нас, беларусаў, гэта радуе. А дзе, на якой зямлі, маюць законнае права добра адчуваць сябе беларусы? Дзе яны могуць карыстацца сваёй роднай мовай, берагчы народныя традыцыі, пайсці ў беларускі музей, тэатр? Ці не час зразумець, што шчасце Расіі не ў яе велізарнасці, а ў тым, як у ёй жывуць людзі. Ім не стане лепей, калі Расія ізноў захопіць Беларусь. Не спасылайцеся на беларускі народ, панове, не рабіце з яго дурня, які хоча далучыцца да "сям'і" непаўнапраўных народаў Расіі, якіх рускія так і не змаглі абараніць ад генацыду, ад высялення з родных месц і ад акцый па "ўстанаўленні канстытуцыйнага парадку".

Хацелася б таксама запытаць і ў некаторых беларускіх інтэлігентаў, ці не грэх дазваляць сабе такую антыбеларускасць і абвінавачваць народ у тым, што ў нас адбываецца? Чаму ў тутэйшых адукаваных людзей не хапае мужнасці не толькі дома на кухні называць хлусню хлуснёй, невуцтва невуцтвам, хамства хамствам, а дурноту дурнотай? Чаму не вучыць народ сваім уласным прыкладам? Чаму трэба апраўдваць сваю беспрынцыповасць і сваё прыстасаванства спасылкамі "такі ў нас народ", "народ так захацеў"?

Ці не прыстойней сказаць "я баюся!"?

А чаго баяцца? Нас жа большасць, пераважная большасць! Вось прэзідэнту ёсць чаго баяцца — і ён баіцца! Баіцца, бо груба парушыў і працягвае парушаць Канстытуцыю і законы. З лістапада 1996 года ён стаў на злачынны шлях, здрадзіўшы Канстытуцыі, на вернасць якой прынародна кляўся. На злачынны шлях сталі і асобныя яго хаўруснікі. З кожным днём відавочней, што давядзецца адказваць перад судом за беззаконне, за дзяржаўны пераварот, за зруйнаванне законных інстытутаў улады, за фальсіфікацыю і падлог на рэферэндуме, за "суд" і асуджэнні не па законе, а па ўказам, за беспадстаўныя зняволенні, за збіццё дэманстрантаў.

Страх іх наогул не пакідае, а перад вясной гэтага года набыў гіпертрафіраваныя формы. Адкормленыя дзецюкі накідваюцца нават не толькі на тых, хто ўдзельнічае ў мітынгу або вяртаецца з яго. Іх страшыць пасяджэнне выбарчай камісіі, бо, барані бог, людзі змогуць выказаць шляхам галасавання сваё стаўленне да прэзідэнта — і ўсё! Канец прапагандысцкаму міфу аб папулярнасці, які так услужліва распрацавалі лісьлівыя памагатыя і штодзённа агалошваюць не менш лісьлівыя прыслужнікі ў СМІ.

Той-сёй быў бы і рады пакінуць злачынную кампанію, а нехта — і пакаяцца, але не так гэта проста! Адроджана камуністычная сістэма "кантролю" або проста збору кампрамату на ўсіх, у тым ліку на паплечнікаў. Страх трымае кожнага паасобку, трымае, пакуль яны не вырашаць пазбавіцца ад яго ўсе або амаль усе разам. Час гэты набліжаецца і не падоўжаць яго ніякія жорсткія рэпрэсіі і беззаконні накшталт зняволення Т. Віннікавай, У.Лявонава, ні турэмныя здзекі над двойчы Героем Сацыялістычнай Працы 75-гадовым Васілём Канстанцінавічам. Старавойтавым.

Мы павінны навязаць сваю палітычную волю гэтай нахабнай меншасці, якая здзекуецца з нашага народа і не дае яму магчымасці самому вырашаць свой лёс. Яна баіцца праўды і з усяе сілы трымае ў сваіх руках радыё і тэлебачанне, каб хлусіць і рабіць ворагамі ўсіх тых, хто не патурае дыктатарскаму рэжыму, хто не страціў сумлення. Яна, як агню, баіцца сапраўды свабоднага грамадства, у якім крыніцамі дабрабыту з'яўляюцца праца, ініцыятыва і розум. Стваральна працаваць яна ніколі не ўмела і не ўмее, як і не навучана клапаціцца аб стварэнні умоў для праявы людской ініцыятывы і для плённай працы кожнага чалавека. Яна навучана адбіраць і размяркоўваць перш за ўсё сабе, таму і дбае толькі пра тое, каб у людзей не было ўласнасці, якая робіць іх незалежнымі, каб вынікі людской працы належалі не працаўнікам, а ёй — "кіруючай" меншасці...

Мы — большасць — гэта разумеем, ведаем, але трымаем абгрунтаваную крыўду пераважна ў сабе. Мы не аб'ядноўваемся, каб агульнымі сіламі вырашыць важныя грамадскія праблемы, як зрабілі ў нядаўні час інтэлігенты Чэхаславакіі, Венгрыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, каб навучыць свае народы пазбавіцца ад дыктатараў. Ці, можа, іхніх "правадыроў" не падтрымлівала Масква? Ці, можа, у нас мала сапраўднай інтэлігенцыі?

Нямала! І яе інтэлігентнасць вызначаецца перш за ўсё вернасцю і бездакорным падпарадкаваннем высокім духоўным і маральным прынцыпам. Крывадушныя крыўлянні вартавых рэжыму выклікаюць ў яе пачуццё грэблівасці, і яна проста не звяртае на іх увагі, захоўваючы такім чынам свой гонар. **Індывідуальнае непрыняцце павінна перарасці ў шырокае ненасільнае супрацьстаянне.** Трэба дапамагчы ўсім ашуканым рэжымам людзям карыстацца здабыткамі свабоднага дэмакратычнага грамадства.

Мы ж дазваляем сабе сёння "не заўважаць", як пераспелае бруднае недавуцтва з паскудным хамствам накідваецца на чалавечую годнасць і прыстойнасць тых, да каго яму ніколі не дарасці і не дамыцца. Мы не пратэстуем **усе разам** супраць відавочнага беззаконня, а **ўсе разам** маўчым, калі нас прыніжаюць паасобку. Мы не проста дапамагаем такім чынам дыктатуры, але і садзейнічаем таму, што яна робіцца больш цынічнай.

## Што рабіць?

Коратка — навучыцца **цывілізавана супрацьстаяць** нецывілізаванасці, хамству, цемрашальству, пакорнаму прыслужніцтву. **Навучыць як мага больш людзей** цывілізаваным спосабам барацьбы за ўласныя правы. Большасць з іх, як ужо згадвалася, адлучана сёння ад крыніц інфармацыі і дрэнна ўсведамляе сувязь паміж сваім жабрацкім становішчам і прынцыпамі пабудовы нашага грамадства. Да іх трэба ісці, ім трэба тлумачыць, іх трэба пераконваць.

Барацьба за дэмакратыю і правы чалавека, заснаваная на дзеяннях без фізічнага насілля, вядзе да ўстойлівых, трывалых змен. Яна не мае нічога агульнага з пакорнасцю і пасіўнасцю, але ў многіх выпадках не можа абысціся без сапраўднага інтэлекту. Высокадасведчаныя людзі, аб'яднаўшыся ў шэрагах змагароў у Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Літве, Латвіі і іншых краінах, паказалі сваім народам шлях рэфармавання, шлях да дэмакратыі і рынку, да гарантаванага дабрабыту.

Мы не былі пільнымі і апынуліся ў значна горшых умовах, чым прыгаданыя краіны. Тым не менш нас многа, нам няма чаго баяцца, мы адстойваем свае законныя правы і нам даўно пара дзейнічаць разам. Інтэлігенцыя не павінна сядзець у акопах, скардзіцца на народ і ўпотай спадзявацца, што цярплівасць народа скончыцца і ён паступіць па румынскім узоры.

Народ павінны весці за сабой людзі, якія гэты народ пасапраўднаму паважаюць і любяць. Гаварыць аб неабходнасці "накарміць народ" могуць толькі невукі і прайдзісветы, якія хочуць прыйсціся даспадобы ўсім, але на самай справе нічым нікому дапамагчы не здольны. Народ сам сябе накорміць і напоіць. Людзям трэба растлумачыць, хто іх абдзірае, забіраючы за бясцэнак калгасны ўраджай, прымушаючы экспарцёраў прадаваць дзяржаве, зноў жа за бясцэнак, валюту, абкладаючы непамернымі падаткамі прадпрымальнікаў і не стаўшых на ногі фермераў.

Самаму блізкаму акружэнню прэзідэнта абрыдла жыць у стане штодзённай падазронасці і страху, публічнага прыніжэння іх чалавечай годнасці. Яны даўно зацікаўлены ў яго замене. Але і яны не павінны баяцца помсты за сваю сённяшнюю дзейнасць, а ведаць, што ім супрацьстаяць тыя, хто не дзейнічае па-бандыцку, а дзейнічае па законе. Што судзіць (і зноў жа па законе!) будуць тых, хто стаў на злачынны шлях, хто парушыў Канстытуцыю і законы, а не тых, хто быў простым баязліўцам. А вызначыць вінаватых і пакарае злачынцаў сапраўдны незалежны суд.

**Цемрашальства нашай улады можна зруйнаваць і адкінуць разам з гэтай уладай цывілізаванымі захадамі, без фізічнага насілля, але гэтым трэба займацца ўсім свядомым людзям, займацца, а не чакаць, пакуль гэта зробіць нехта іншы.**

**Паважаныя чытачы!** "Беларускаму Дайджэсту" патрэбная грашовая дапамога. Не забывайце пераслаць ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!



## *Адкрыты ліст прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь сп. Сяргею Лінгу*

*Паважаны Сяргей Сцяпанавіч!*

***Да Вас звяртаюцца прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, занепакоеныя станам мовы тытульнай нацыі нашай дзяржавы.***

***Як Вам вядома, да пачатку 90-х гадоў беларуская мова аказалася на мяжы знікнення: яна практычна была выгнаная з гарадскіх школ і ВНУ, з візуальнага афармлення гарадоў і вёсак , са справаводства ў органах кіравання, з ужытку на заводах, ва ўстановах і калгасах. Найвялікшы скарб, створаны многімі пакаленнямі нашых папярэднікаў, - мова народа, які жыве на гэтай зямлі, сталася аб'ектам пагарды і вынішчэння, замаскаваных лозунгам зліцця нацый.***

***Да гонару дэпутатаў Вярхоўнага Савета, яны разумелі крызісны стан беларускай мовы. У 1990 годзе імі быў прыняты Закон "Аб мовах у Беларускай ССР". У адпаведнасці з гэтым законам (які, дарэчы, атрымаў ухвальную ацэнку экспертаў з многіх еўрапейскіх краін, таму што быў разважлівы і вёў да гарманізацыі міжнацыянальных адносін) беларуская мова паступова на працягу 10 гадоў узводзілася на ўзровень рэальна дзяржаўнай мовы.***

***Савет Міністаў распрацаваў і зацвердзіў у свой час адпаведныя мерапрыемствы. У 1991 годзе была прынятая "Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь", якая пачала выконвацца. Мы з радасцю ўбачылі беларускамоўнае афармленне нашых гарадоў і вёсак. Родная мова загучала ў сценах вышэйшых органаў улады.***

***На жаль, у апошнія гады сітуацыя карэнным чынам змянілася. Таврыства беларускай мовы асабліва адчувае гэта - па пісьмах, што дасылаюцца на наш адрас, па тэлефанаваннях, па зваротах людзей, што прыходзяць да нас, а таксама па статыстычных дадзеных. Пачынаючы з ранняй вясны і да позняй восені нам тэлефануюць бацькі, якія просяць дапамогі ў ратаванні беларускамоўных класаў, дзе вучацца іх дзеці, ад пераводу на рускую мову. Мы маем факты, калі за карыстанне беларускай мовай людзі падвергліся дыскрымінацыі і вымушаныя былі адстойваць свае правы праз суд. Мяняецца выгляд нашых гарадоў. Практычна ўсе новыя шыльды на ўстановах, магазінах робяцца толькі па-руску . Нас непрыемна ўражвае, што на будынку Дома Ураду апошнім часам засталася толькі рускамоўная шыльда. А беларуская — вышэйшым органам кіравання нашай дзяржавы праігнараваная. Такога не было нават ў найгоршыя для беларускай мовы часы.***

***Мы расцэньваем сітуацыю з беларускай мовай як трагічную. Мы ўпэўненыя, што наступныя пакаленні будуць удзячныя, калі мы зробім усё для выратавання беларускай мовы, і не даруюць нам бяздзейнасці і абыякавасці.***

***У сувязі з гэтым мы хацелі б ведаць Вашу асабістую пазіцыю па пытаннях:***

***•Як Вы асабіста ацэньваеце становішча беларускай мовы ў нашай дзяржаве?***

***•Якія канкрэтна дзяржаўныя акты прынятыя і якія захады на дзяржаўным узроўні здзейсненыя па Вашай ініцыятыве ў падтрымку беларускай мовы за апошнія год-два?***

***•Які лёс "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь"? Яна адмененая, выконваецца ці яе існаванне забыліся?***

***•Чаму на будынку Кабінета міністраў Рэспублікі Беларусь надпіс зроблены толькі на рускай мове?***



***З павагай ад імя сакратарыята***

***Старшыня Таварыства беларускай мовы***

***імя Францішка Скарыны*** ***А.А. Трусаў***

# “Як зберагчы беларускую вёску?”

“Наша Слова”

*“Бо, як сказаў паэт,*
*навошта колас,*
*калі не ў модзе сіні васілёк,*
*Я за цябе, зямля, уздымаю*
*голас,*
*І для цябе я свой цягну*
*аброк”.*
*Славамір Адамовіч.*

Прыеду да мамы і яна мне пачынае распавядаць, як добра жылося за палякамі і з кожным разам яна ўсё больш падрабязна і з такой асалодай вяртаецца ў мінулае. А яно і сапраўды было цудоўнае, не атручанае Чарнобылем. Нарадзілася мама ў 1933 г., на беразе Віліі прайшло дзяцінства, яна і зараз там жыве. Але з таго часу шмат што змянілася і з кожным годам не толькі горшае жыццё, але і дэградуе. Маміны бацькі жылі па тых часах багата, мелі шмат гектараў зямлі, свой лес, гадавалі жывёлу, быў свой конь. А дом, гаспадарчыя пабудовы, гумно, свая лазьня – маёнтак, вакол раслі ліпы, увесну зацвітаў бэз, а высокія берагі Віліі купаліся ў квецені чаромухі ў вясну.

Усё гэта цудам засталося да сённяшняга дня. У сям'і было 8 дзяцей, працавалі на сваёй гаспадарцы з усходу сонца і да заходу. Рана дзеці выганялі кароў пасьціць, мама ў сем гадоў разам з бацькам хадзіла за плугам, арала зямлю, у кожнага быў свой абавязак. Апрацоўвалі і збіралі збожжа ўручную. Доўгімі зімовымі вечарамі пралі, ткалі, шылі. Як самае каштоўнае берагу вытканыя мамай перабіраныя дываны, зробленыя з воўны касцюмы і свэтры. Гэта мастацкія творы, непаўторныя. Вярталіся летам позна з жніва, лес разлягаўся ад спеваў, зімовымі вечарамі – таксама спявалі. У нядзелю раніцай, ішлі ў касцёл, а пасля збіралася моладзь з навакольных вёсак і разам адпачывалі. Дружна ў вялікай сям'і гадаваліся дзеці, жылі ўсе разам, працавалі.

У сваю вёску выходзілі замуж. Тады не было “моды” выязджаць у гарады, а калі ездзілі на заробкі, ці як мой тата, рана застаўся без бацькоў, змушаны быў ехаць на вярбоўку ў Карэлію, на лесанарыхтоўкі. Але вярнуўся на радзіму, у родную вёску, і так многія. Людзі жылі аднаасобна, багата. Так было да 1939 года, як кажуць мястэчкоўцы – за палякамі. Потым прыйшлі саветы, усё забралі, гумны разабралі, пачалі зганяць у калгасы, з людзей – гаспадароў зрабілі статак. Раскулачылі, бацькоў маёй мамы павінны былі вывезці ў Сібір 23 чэрвеня, яны ўжо сабраліся, але 22 пачалася вайна і такім чынам выраталіся. З нашай вёскі мала, хто быў на вайне, у асноўным хаваліся. Старыя людзі распавядаюць, што партызаны ўзарвалі мост праз Вілію, сваі якога якога тырчаць, як успамін і сёння. Калі прыходзілі немцы, то прасілі яды, а калі прыходзілі партызаны, то патрабавалі і пагражалі. Вось такія рэчы мне распавядаюць жывыя сведкі, у літаратуры пра вайну чытаю іншае. Вядома, у Заходняй Беларусі, яшчэ не паспелі, як след, пагаспадарыць бальшавікі, менш было камуністаў. І, увогуле, яшчэ шмат белых плямаў у гісторыі другой сусветнай вайны.

Пасля вайны бальшавікі пачалі сваю разбуральную дзейнасць: — пазакрывалі касцёлы, прыстасавалі пад склады, ці як у Варнянах зрабілі клуб, а ў Вароне Георгіеўскі касцёл (18ст.) помнік прыстасавалі пад майстэрню сельскагаспадарчых машын. Калі Варанянскі касьцёл на пачатку 1990-х гадоў паспелі вярнуць вернікам, захавалі для нашчадкаў, то Варнянскі не паспелі. Цяперашні рэжым безнадзейна за пяць гадоў усё знішчыў і сумнавядомы рэферэндум, закончыў. І калі саветы прымусілі працаваць за палачкі, потым наступіў нейкі перыяд адлігі, калі хто як мог уладкаваўся, хто з'ехаў, і вёска разбуралася паступова, то зараз, за пяць гадоў сумелі так разбурыць, на столькі гадоў адкінуць назад.

Я ўжо неяк пісала, вёска, дзе я нарадзілася, глухая, бесперспектыўная, вядзе ў тупік, праз Вілію няма маста. Але гэта быў прыгожы, маляўнічы куточак, у любую пару года прырода разлівала свае фарбы. Праз вёску пралажана рукамі продкаў брукавая дарога – гэта ж гістарычны помнік, абапал дарогі – бярозавая алея, кусты бэзу, чаромахі. Воддаль расла адзіная дзікая бяроза – лекавае дрэва, якое вяскоўцы бераглі, некалькі дрэўцаў ядлоўцу, яны ж у Чырвоную кнігу занесены.

А можа ўжо такой не існуе ў Беларусі? Вандалы канца XX стагоддзя, за адзін восеньскі месяц мінулага года выкарчавалі дрэвы і знішчылі брук. Проста так, бо выдзелілі грошы і іх трэба патраціць. Людзі плакалі, прасілі.

Няма краіны на свеце, каб так здзекаваліся над прыродай, не лічыліся з чалавекам, як чалавекам, — гаспадаром свайго кавалачка зямлі. Ён нішто зараз, без правоў, аднялі мову, голас, памяць. Вядома, чалавек павінен пабудаваць дом, нарадзіць дзіця, пасадзіць дрэва, тады ён нездарма пражыў жыццё. Палі ўжо колькі гадоў не ўзараныя. Была ў вёсцы крама яе зачынілі, хлеб прывозяць раз у тыдзень, у наступным годзе ў суседняй вёсцы закрываецца беларуская школа, бібліятэка ліквідавана ўжо некалькі гадоў.

У вёску засяляюць расейцаў, якія адбывалі за кратамі за забойствы, брудастых алкагалічак – жанчын. Як мой дзядзька пабожчык гаварыў: “З усяго свету, гэта не людзі”. Мудрыя старыя людзі. Яно і так. Гэта нам дзяўбалі ў галаву “Мой адрас Савецкі Саюз”. Беражэцца і шануецца тое, што зроблена і пасаджана, пабудована рукамі бацькоў, дзядоў, да чаго прыжыўся і сэрцам і душой. А не так, што сёння там, заўтра там, дзе лепей, а пасля мяне хоць патоп.

Дэградавала вёска, спіўся люд, хто п'е, хто гандлюе гарэлкай, прычым адкрыта, многія і не адзін раз пабывалі ў псіхічных шпіталях, другія “пайшлі” на той свет. Няма сэнсу ў жыцці, жывуць адным днём. Да такой ступені чалавек прыніжаны, што працуе за даляр у месяц. Прачытала ў “Нашай ніве” гутарку з М.Чыгіром, што ў яго роднай вёсцы, у Капыльскім раёне парваліся апошнія боты ў сялянаў і няма за што купіць. Такіх вёсак тысяча ў Беларусі, у нашай – не толькі не маюць за што купіць, але і не дбаюць, бо апошнюю куфайку з плячэй здымаюць, аддаюць за бутэльку барматухі, потым тыдзень ляжаць беспрытомныя. Наступіў самы страшны духоўны Чарнобыль. Відаць дзяржаве выгадна, лягчэй такімі кіраваць, якія і думаць не ўстане, не толькі аналізаваць і рабіць высновы. Я памятаю выбары прэзідэнта, калі адзін чалавек за ўсю вёску галасаваў, за таго за каго было зверху загадана, а на рэферэндум увогуле не хадзілі галасаваць, ужо было прагаласавана “як трэба”. Вось такія былі “дэмакратычныя” выбары. Таму ўяўляю вынікі выбараў у гэтым годзе. Нішто беларусаў не аб'ядноае, як нацыя беларусы выміраюць. Пад час перабудовы з Прыбалтыйскіх краін выехала сотні тысяч вайскоўцаў, а колькі прыехала з Расеі, накшталт такіх, як у нашу вёску, з розных гарачых кропак. Гэта катэгорыя насельніцтва, якая з настальгіяй успамінае савецкія часы, актыўна пойдзе на выбары. Вынікі вядомыя. А што можна зрабіць жменька беларускай інтэлегенцыі, якая ў асноўным жыве ў сталіцы. Неяк прачытала ў апошнім нумары газеты “Семья”, як група інтузіястаў, дакладней , жанчына прыехала ў Маскву, каб дапамаглі зберагчы парк у вёсцы Тульскае вобласці, які пачалі выкарчоўваць пад будоўлю. І ёй дапамаглі, і не толькі зберaглі парк, а пачалося будаўніцтва палаца, які там быў раней. Да каго ж можна звярнуцца беларусу, калі знішчаецца ўсё беларускае.

Вёска выміpae. У наступным годзе дзеткі пойдуць у летувіскую школу, набудаваную летувісамі, якая пачала працаваць у 1996 годзе і аб якой клапоціцца Летувіская дзяржава. А вось кім вырастуць дзеці беларусаў, якія закончаць школу, у якой усе прадметы выкладаюцца на летувіскай мове. Чужой стала Бацькаўшчына, не хочацца туды ехаць, баліць душа. Я не памятаю другой. Распавяла пра адну вёску Астравеччыны, якая знаходзіцца недалёка ад мяжы з Летувой. А колькі такіх па ўсёй Беларусі забытых Богам і людзьмі?

***Леакадзія Мілаш, г.Вільня.***

# Трэба мяняць сістэму

«ПАГОНЯ»

***Колькі бальшавіка не кармі, ён усё роўна цябе раскулачыць***
**(Народная мудрасць)**

«Бездельники, работать нужно!» - часам чуеш ад якой-небудзь кабеты на свой адрас, калі стаіш у пікеце супраць рэжыму за свае правы. Давайце разгледзім пытанне наконт таго, чаго можна дасягнуць упартай працаю.

Спачатку некаторыя гістарычныя прыклады: Паўночная і Паўднёвая Карэя. У гэтых краінах жывуць карэйцы, якія нічым паміж сабой не адрозніваюцца - аднолькава разумныя, аднолькава дурныя - адзін і той жа народ. Клімат, прырода, надвор'е, карысныя выкапні ды іншае практычна аднолькавыя. Але у Паўночнай Карэі голад, а Паўднёвая Карэя - багатая квітнеючая краіна з сярэднямесячным заробкам каля 600 даляраў ЗША. Парадокс?

Фінляндыя і Расія. Да 1917 года фіны жылі бедна, як і нашыя народы імперыі. Клімат, глеба ў Фінляндыі горшыя, чым, прыкладам, у Беларусі. Сёньня, праз 80 гадоў, узровень жыцця і культуры фінаў у дзесяткі разоў вышэйшы, чым у любых іншых народаў імперыі, хаця першапачатковыя ўмовы былі аднолькавыя. Чаму?

Усходняя і Заходняя Нямеччына (да 1990 года). За 45 гадоў савецкай акупацыі ўсходнія немцы значна адсталі ў сваім развіцці ад заходніх. Спатрэбілся дзесяткі мільярдаў марак дадатковых капіталаўкладанняў ва ўсходнія рэгіёны Нямеччыны, каб падцягнуць іх да ўзроўня заходніх, і працэс яшчэ далёка не закончаны. Чаму ўсходнікі так адсталі?

Кітай і Кітайская Рэспубліка на Тайвані. Кітайцы, што ўцяклі ад камуністаў на Тайвань у 1949 годзе, з'яўляюцца сёння багацейшым народам у свеце, у дзесяткі разоў багацейшым, чым кітайцы кантынентальнага Кітая. Адзін і той жа народ, а вынікі розныя. Чаму?

Польшча і Беларусь. У савецкі час была прымаўка: «курица не птица, Польша не заграница». І сапраўды, у 1989 годзе палякі і беларусы жылі амаль аднолькава бедна. Сёння, праз 10 гадоў, палякі маюць у дзесяць разоў вышэйшыя заробкі. Адкуль яны так хутка разбагацелі?

Шматлікія выпадкі падзеленых сем'яў. Напрыклад, адзін брат апынуўся ў Амерыцы і стаў там амаль мільянерам, а другі ўсё жыццё працаваў у калгасе механізатарам, страціў здароўе, спіўся і жыве ў галечы. Чаму так? Адваротных выпадкаў няма.

Адказ на ўсе гэтыя пытанні вельмі просты: ўся розніца ў сістэмах. Як бы беларус не працаваў, не еў, не спаў, а толькі працаваў, працаваў, працаваў.., ён нічога не даб'ецца, пакуль у нас пануе дыктатарскі прамаскоўскі рэжым. Дабрабыт, у першую чаргу, залежыць ад таго, у якой сістэме жыве чалавек, а не ад упартай працы. Трэба змяніць дыктатуру на сістэму, у якой людзі маглі б працаваць на сябе. Толькі так можна пазбавіцца ад галечы.

**Сяргей Дамброўскі**

## *СЁЕ — ТОЕ...*

Барыс Ельцын — расейскі прэзыдэнт — нядаўна перадаў Білу Клінтану 80 тэчак копіяў архіўнай справы НКВД на Лі Гарві Освальда, забойцу прэзыдэнта Дж. Кэнэды.

Лі Гарві Освальд пэўны час жыў і працаваў у Менску. Тут ён ажаніўся і адсюль у 1962 годзе выехаў назад у Амэрыку. У часе ягонага пабыту ў Менску, ён знаходзіўся пад пільным наглядам і адпаведнай апрацоўкай органаў Бясьпекі СССР.

——— ¤¤¤ ———

Паведамляецца, што ў Беларусі бэнзінавы голад. Ля бэнзінавых станцыяў — кіляметровыя чэргі. Тысячы аўтамашын трэба дзяржаць у гаражах. Прычынаў гэтаму шмат, як эканамічных, гэтак і палітычных.

——— ¤¤¤ ———

Агульны Зьезд Беларускага Народнага Фронту назначаны на 31-га ліпеня і 1-га жніўня. Кіраўніком арганізацыйнага камітэту па правядзеньні Зьезду абраны сп. Вінцук Вячорка. Дзе адбудзецца Зьезд не паведамляецца. Каго Зьезд выбярэ лідэрам БНФ, дагадвацца таксама цяжка...

——— ¤¤¤ ———

Гутарка з адважным беларускім Міронам:
— Сярод паспалітых людзей пануе думка, што ты ўзначальваеш “Беларускую Вызвольную Армію”. Ці гэта праўда?
— Мне больш падабаецца “Беларускі Вызвольны Рух”, але я ведаю людзей із абедзьвух гэтых арганізацыяў, і ведаю іх магчымасьці. Ну, а хто на што будзе здатны, пакажа час пасьля 20-га ліпеня...

*“Беларускі Дайджэст”*
**патрабуе Вашае дапамогі!!!**

"ЛіМ"

# АЧНІСЯ, СВЯТАЯ МАМА

## МАЛІТВА СЫНА

***Прапаную чытачам "ЛіМа" ўрывак з дакументальнай аповесці, якую прысвяціў памяці сваёй Мамы, сотым яе ўгодкам.***

**АЎТАР**

Уладзімір ЛІПСКІ



●

Пра святога Юр'я, божага пасла, напісана-перапісана.

А ў валачобных песнях ёсць адзнака, што менавіта з Юр'я ідзе адлік хрысціянскіх святаў:

***А ў той царкве прастол стаіць,***
***За прастолам сам Бог сядзіць.***
***Каля Бога ўсе празнічкі —***
***Катораму ўперад ступіць,***
***Першы празнік — святы Юра...***

У дзень святога вялікамучаніка Юрыя Мама нарадзіла мяне. У гэты дзень, пакуль усе ў кватэры спяць, складваю ранішнюю малітву:

"Мая святая пакутніца, мая сонечная цярпліваца! Нялёгка даўся табе апошні падскрэбак".

У той дзень у Шоўкавічах выганялі кароў на пашу. Прасілі Бога: каб карміліцы былі здаровымі і прынеслі прыплод, каб захаваў ніўкі ад граду, каб паслаў вясновую расу на ўраджай і на лекі.

А Мама раджала мяне ў Горвалі, у драўлянай лякарні. Быў панядзелак — цяжкі дзень.

Мама родная!

Ты зрабіла для мяне панядзелак пажыццёвым святам. У гэты дзень не жыву — лятаю. Светла думаецца. Хочацца працы, сустрэч, радасці і слёз.

Я пажыццёвы твой даўжнік, Мама.

Я вечны твой улюбёнец, матуля. Ты ў сорак два гады рашылася на подзвіг. Каб жа ты ведала, родная, як удзячны табе, што дала магчымасць спазнаць найвышэйшыя чалавечыя пачуцці і адчуць асалоду жыцця.

Мама!

Схіляю прад табой заснежаную галаву. Малюся за тваю чулую любоў, Мама, якой ты саграбала ў дні радасныя і ў дні хвароб. Можа, таму часта прачынаюся ноччу і хораша думаю пра цябе, прыгадваю, як ты сядзела нада мной, схварэлым, ды вуснамі грэла і горача туліла да сябе.

Мама!

Ты далёка ў нябёсах. І вельмі блізенька — у маёй душы, у маім сэрцы. І гэта повязь ніколі не парвецца. Малю дзяцей і ўнукаў, каб і яны навечна ўзялі ў памяць твой добраславёны вобраз. Цярпліва і доўга чакала нас у сваім высокім царстве, бо хто ж тады будзе спраўляць ранішнія малітвы па табе на грэшнай і святочнай зямлі?..

Чыстая і святая Марыя!

Хай святы твой воблік блаславіць мяне, твайго найменшанькага, збавіць ад бедаў і ўратуе. Злітуецца над тымі, хто зайздросціць мне і хто крыўдзіць мяне. Дасць моцы, веры, любові і здароўя маім дамачадцам і ўсім беларускім пакутнікам.

Абаронца мая любая!

Шаную цябе і бязмежна люблю сёння, у дзень святога Юр'я, увесь час і на векі вякоў. Амін".

●

Прыгадваю: ідзём нейкай лясной дарогай. На дрэвах і кустах — маладая, шалёная зеляніна. Птушкі спяваюць узнёслыя гімны. На чыстым небе — вясёлае сонца.

Мы вяртаемся з балотных хованак у свае спаленыя Шоўкавічы.

На папялішчы, дзе стаяла наша хата, кінуўся ў плач:

— Дзе мае цацкі?..

Мама ўзяла мяне на рукі, прысела на абсмыленую калоду, пачала супакойваць:

— Не плач, сынок, разжывёмся, будуць у цябе яшчэ лепшыя цацкі...

Спраўдзіліся маміны словы.

Цяпер у маіх унукаў, мінчукоў, столькі цацак, як у добрым магазіне. А ў мяне асабіста — музычны конік з Амерыкі, лялька, якая ўвесь час пахітвае галоўкай, з Кітая, смяхунчык на батарэйках з Германіі, рысавыя пляцёнкі з Карэі, балалаечка з Харватыі, кніжкі-маляванкі з Даніі, завадная малпа з Мексікі, свістулька з Бельгіі, Каласок і Калінка з Аўцюкоў...

Гуляю з цацкамі, а сэрца плача, што не магу пахваліцца імі перад сваёй Мамай.

●

Мой пляменнік Міша Сыцько часам падтрунівае нада мной:

— Малакасос.

І я, дзядзька яго, не крыўдую.

Атрымалася так: мая Мама і яе дачка Ліда разам выношвалі пад сэрцам дзяцей. Ліда была ўжо замужам за Сыцьком са Старыны.

Мама "хадзіла" шостым дзіцём, Ліда — першым. Маме — сорак два гады, Лідзе — дваццаць адзін.

Уяўляю, ідуць разам цяжарныя маці і дачка. Рэдкая прыгажосць!

Уяўляю, сядзяць недзе ў спальні і сакрэтнічаюць, даверліва і нароўні.

Ліда абрадзілася першай. І калі я малакасос, то ён — выскачка, вытыркач. На два месяцы раней дзядзькі вылупіўся на свет.

Заўсёды жартуем з гэтага пры сустрэчах.

І цяпер, ссівелыя, калі бяром па чарцы, то адну з іх — за памяць пра нашых мамаў, якія разам спачываюць у сасонніку, за Шоўкавічамі.

Мішу мне пажыццёва шкада.

Як жыў малым у Старыне, знайшоў міну. Гуляў з ёй, пакуль не рванула. Раны пазажывалі, а ў мове ад страху застаўся дэфект — заікаецца і шапялявіць.

Пасля вайны жылі ў Шоўкавічах: насупраць нашай хаты, праз вуліцу, стаяла іхняя хатка. Міша вучыўся і працаваў на валах. У млын ездзіў, снапы вазіў, дровы цягаў для калгаснай кармакухні.

Рослы. Прыгожы. Добры. Дужы.

Пасля школы вучыўся ў Навапольскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. І я, на правах дзядзькі і сябра, наведваў яго.

У арміі Міша служыў танкістам. І ўсё жыццё — у вёсцы на Пухаўшчыне. Быў і намеснікам старшыні калгаса, і парторгам, і дыспетчарам. Завёў сям'ю. Настаўніца-прыгажуня Святлана нарадзіла і выгадавала яму сына і дачку, а сама памерла. Рана памёр і яго меншы брат Шура. Памерла і мама Ліда.

Шкада мне Мішу.

Сіроты мы з ім.

А пры новай сустрэчы абдымемся і ўсміхнёмся. Ён абзаве мяне "малакасосам", а я яго — "выскачкай".

●

Пішу, прыгадваю пра Маму толькі ранкам. На ўзыходзе сонца. Гэта мае ранішнія малітвы.

Перад акном стаіць мой пісьмовы стол і я каторы ўжо дзень бачу, як на небасхіл выкатваецца свяціла нябеснае. Момант урачысты, божы. Як бы сам Уладар сядае на трон, зыркай свечкай асвятляе зямныя абшары і як бы кажа: "А ну зірну, што мае чалавекі робяць, чым займаюцца!"

Ды, напэўна, кожным разам расчароўваецца Уладар. Дрыхнуць яго пасланнікі на зямлі. Мала хто бачыць узыход сонца. Мала хто моліцца новаму дню. Мо адсюль уся грэшнасць, усе беды?

Мама мая Марыя кажынны дзянёчак сустракала ўзыход сонца. Ідзе з даёнкай у хлеў. Ногі расой абмые. Прыпыніцца каля брамкі, зірне на агарод, а за ім, паміж дубамі — сонца на троне. Перахрысціцца. І заварушацца вусны:

"У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амін.

Божа, будзь літасцівы да мяне, маіх дзетак, маёй хаты. Памілуй нас, Госпад Ісус.

Слава табе, Уцяшыцель, што ўсюды прысутны і ўсё напаўняеш. Прыйдзі і ўсяліся ў душах дзетак маіх. Ачысці нас ад усяго благога, збаў правіны нашы. Наведай нас і аздараві немачы нашы дзеля імя твайго. Ойча наш нябесны!

Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і не дай нас у спакусу, збаў нас ад злога.

Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу. Амін".

Я не чуў маміных малітваў. Услых яна іх ніколі не прамаўляла. У царкву не хадзіла. Яны, маўклівыя маміны малітвы, цяпер самі адгукаюцца ў маёй душы. Кожнае слова — як удар сэрца. А калі сэрца б'ецца, яно жыве.

Дзякуй, Мама, што і сёння разбудзіла на ўзыходзе дня. Нізкі паклон, мілая, што каналамі памяці, праз Млечны Шлях, перадала мне сваю ранішнюю малітву. Буду ёй сустракаць кожны новы дзень свайго жыцця.

●

Ніколі не чуў, каб Мама што-небудзь гаварыла пра Сталіна, Леніна, Хрушчова, пра ўлады, іх мудрыя рашэнні і выбрыкі.

Запомніў толькі яе твар, як прыходзіў у хату страхагент. Пасля вайны ў такой галыцьбе жылі, а ён, сыценькі, з партфелем да пятаў, укоціцца ў хату і пачынае жылле вымотваць. Плаці падаткі за соткі, за дрэўцы ў агародзе, за цялё, свінчо, курчанё.

— А каб вас пранцы ўзялі, — аднойчы не вытрымала Мама, калі раённы вышкрабайла бразнуў дзвярыма.

А звычайна Мама ціха сядзела ў запечку і пазірала, як бацька за сталом разбіраўся з агентам. Тоўстымі пальцамі пералічваў рублі, быццам адрываў ад сябе латкі скуры. Узамен гэтай мазольнай каштоўнасці пузаценькі чыноўнік даваў бацьку квіток, маленькую паперку, з якой нават добрай цыгаркі не скруціш.

Мама ў гэты час пазірала ў нейкую сваю далячынь і напружана маўчала. Пра што думала?

Цяпер, з вышыні гадоў, мне здаецца, Мама звярталася да заступніка нябеснага, прасіла, каб на ўсёй зямлі і ў нашых Шоўкавічах запанавала справядлівасць, каб драпежнікі абміналі нашу хату і дворышча.

Мамінай палітыкай былі мы, дзятва. Каб не галадалі. Каб знайшлося чым цела прыкрыць. Каб, не давядзі Божа, не выраслі гультаямі. Каб не разбэсціліся. Каб сталі людзьмі.

Як бы мне хацелася зараз прытуліцца да Мамы. Не хапала "клёпак" рабіць гэта часцей, як яна была жывая...

●

Маміны ўрокі ясныя і простыя.

Во, збірае мяне пасвіць карову. На ногі ўстырквае буркі з бахіламі, каб не замачыў ног. На плечы накідвае сваю святочную плюшаўку, каб не схаладаў, На галаву завязвае сястрыну хустачку — ад машкары, а зверху шапку — каб не прастудзіўся. Вешае палатняную торбачку цераз плячо. А ў ёй — скарынка хлеба, шматок сала, бутэлька малака: каб жа хаця не згаладаўся. Дае пастушку лазовы дубец і кажа:

— Глядзі ж, сынок, каб Красуля ў калгаснае не залезла, каб на чые соткі не зазыкавала, каб у лесе не згубілася. Напасві, каб поўную даёнку малака дала...

— Добра, Мама!

Мне падабалася, што мне давяралі дарослую справу. Гэтым я ўзвышаўся над вясковай малечай.

Мне даспадобы было, што Мама збірала мяне на працу гэтак жа, як бацьку, старэйшых братоў, сясцёр.

Красуля ж, як адчула вольніцу за поплавам, як убачыла нягеглага пастушка, пачала паказваць свой нораў. Раз — і ўжо каля Мішчуковага агарода. Лячу напярэймы, аж торба адрываецца ад плячэй. Адганю ад патравы, а карова рогам лесу цягнецца на Дуброву, дзе даспявае калгасная бульба. І я забягаю з боку дубняку, махаю дубцом.

Сеў узмакрэлы на пянёк. І Красуля сцішылася, шаткуе і шаткуе траву на зялёнай, лясной сцяжыне. Так апетытна, аж мне сала захацелася. Толькі раскрыў торбу — птушкі акружылі, ваверка спусцілася з елкі. Авохці мне, колькі едакоў на дармаўшчыну.

Пакуль частаваў, глядзь — каровы няма. Лётаю туды-сюды, а Красулі і след прастыў. Пераняў ажно ля Задзірэеўскай сенажаці...

На схіле дня вярнуліся мы дамоў.

Красуля, наетая і супакоеная, павольна перабірала нагамі, лянiва памахвала хвастом-мяцёлкай. Ішла сцяжынкай, якая вяла проста ў наш двор.

А я ледзь плёўся за ёй. Цяжкія бахілы быццам спуталі ногі, маміна плюшаўка здавалася чыгуннай, а дубец — жалезным прутам.

— Мой ты пастушок, — кінулася Мама да мяне, расцалавала. — Памочнічак мой залаты...

Яна загнала карову ў хлеў, а мяне павяла ў хату. Распранала і распытвала. Я расказваў, як цяжка было пасвіць карову. Мама толькі й паўтарала:

— Залаценькі мой, любенькі мой... От і дачакаліся ад цябе помачы...

Мама ўсадзіла мяне на печ, дала ўсяго смачненькага, што было ў хаце. І нават куплёных цукерак-падушачак.

Увесь вечар, як сабралася сям'я, толькі і гаворкі было пра мяне, пастушка. Мяне ўзвысілі і ацанілі. І я паверыў, што ўжо не такі і малы. Пара ў школу!..

●

Замурзаны сёння ўсход.

Нячысцік захмарыў неба, не хоча пакідаць ноч. Як бы ўпіраецца, пасоўвае шэрую кудзелю на золак.

А я прачнуўся ў добрым настроі. Таму і бяру для ўспаміну вясёлыя фарбы. Бяру чырвоную і жоўтую, змешваю. Атрымліваецца не агністая, не як грэбень у пеўня, а цёпла-сонечная. У гэта святло перакідваецца масток памяці.

Вераснёвая раніца 1947 года. Сонечна на небе. Загадкава святочна ў душы. Мама вядзе мяне ў першы клас.

Школа тады была ў Леўкавай хаце. Гэта, як выйдзеш з нашай, трэба мінуць хаты Трацэўскіх, Паўловічаў, Маркавых, Козыраў, Бабічаў, Новікаў, Бельскіх. Вось ты і ў школе.

Не памятаю ўсе свае ўборы ў той дзень. Але на ўсё жыццё ўсеклася, што на нагах былі лапці. Бацька сплёў з луцця. Абадраў ліпку на лыка для свайго першакласніка.

Лапці з луцця пляліся на выхад у людзі, для вечарынак. Гэта ж не тое, што лапці з лазы. У іх толькі кароў пасвіць, сена касіць. Яны хутка чарнеюць, вушкі рвуцца. А з луцця лапці беленькія, парыпваюць пры хадзьбе, як боты ў пана Быкоўскага.

Расказваю цяпер дзецям сваім, Ігару і Марыне, што ў першы клас пайшоў у лапцях, — не вераць. А ў той год нас апанаваў страшны голад. Вясною збіралі па палетках гнілую бульбу, пяклі аладкі. З жалудовай мукі замешвалі хлеб. З лебяды і крапівы варылі супы. Не да ўбораў было, толькі б выжыць...

І вось ідзём з мамай па пыльнай вуліцы. А мяне аж распірае ад радасці. Верабей ціўкне, і я свісну яму ў адказ. Певень кукарэкне, і мне хочацца кукарэкнуць, паздароўкацца з ім. У сваім двары хваравіта закашляла Аршулька Бельская, і я закашляў, перадражніў. Тут ужо Мама і прыпыніла мяне:

— Што ж ты робіш, сынок?.. Хіба можна са старых насміхацца?.. А калі настаўніца пра гэта даведаецца?..

Тут я і абмяк. І дайшло да мяне, што адгуляў, аддзяцінеў. Пара адказваць за свае "конікі".

Настаўніца Аляксандра Лявонаўна багата чаму навучыла мяне: пісаць літары і чытаць кніжкі, лічыць і маляваць, дэкламаваць вершы і спяваць.

А Мамін урок — зарубка ў сэрцы на векі вечныя. Паважай старасць. Не смейся з нямоглых. Дапамажы слабаму. Мамінай навукай мацую сваю душу.

●

Сяджу за пісьмовым сталом. Гарыць лямпа. За акном барабаніць вясновы дожджык. Гудзяць машыны. На даху цырка, які бачны мне з сёмага паверха, любяцца галубы і прабягуць адзін за адным, чмокнуцца дзюбкамі — вось і дамовіліся...

Абуджаецца Мінск.

Падымаюцца з цёплых пасцеляў замілаваныя і закаханыя. Пакідаюць халодныя ложкі аўдавелыя і сіратлівыя...

А я на крылах памяці і любові зноў лячу ў свае Шоўкавічы.

Ды на гэты раз не даляцеў.

У дзверы ціха пашкрэбаліся, і на парозе — Маша.

— Унучачка, чаго не спіш?

Бяру на рукі, тулю да грудзей дарагі камячок. Лашчыцца, просіць:

Раскажы казку.

І я пачынаю:

— Жыла-была Мама. Звалі яе Марыя. Аднойчы яна нарадзіла хлопчыка Валодзю. Рос, рос той хлопчык і вырас. Ажаніўся з дзяўчынай Нінай. І пайшлі ў іх свае дзеці — Ігар і Марына, а ў дзяцей свае дзеці — Антон і Маша...

— Гэта казка пра нас? — здзівілася Маша.

— Пра нашу сям'ю, Машачка.

Паказваю ўнучцы фотку сваёй Мамы. Яна доўга ўзіралася ў яе. Пасля банцікам ружовых губак пацалавала прабабку, маю Маму.

Расчуліла мяне Маша на цэлы дзень.

Расці, дзяўчынка, і стань мамай, пра якую нехта захоча напісаць сваю малітву...

# Што далей?

*Народная Воля*

Скончылася напружаная, нервовая, часам хаатычная пара прэзідэнцкіх выбараў і ва ўсёй сваёй маўклівай значнасці паўстае пытанне: што далей? Гэтае пытанне хвалюе не толькі прыхільнікаў апазіцыі, хаця гэта - значная частка беларускага грамадства. Сэнс мінулай кампаніі быў у тым, каб даць магчымасць кожнаму чалавеку выказацца па лёсавызначальнаму пытанню, ці згодзен ён жыць пры дыктатуры. У бясспраўным грамадстве, якое з кожным днём апускаецца ў галечу. Прозвішчы кандыдатаў у дадзеным выпадку выконвалі выключна службовую ролю. Па сутнасці, выбары павінны былі стаць плебісцытам па даверы А.Лукашэнку.

Аднак не ўсе дзеячы апазіцыі і незалежныя журналісты зразумелі гэтую ісціну. У чарговы раз асабістыя амбіцыі абярнуліся дробнымі склокамі, гучным шумам не па сутнасці а, у рэшце рэшт, дэзарганізацыяй выбараў, найперш у Мінску, дзе сілы апазіцыі найбольш значныя і дзе выбараў чакалі вельмі нецярпліва.

Часцей за ўсё гучаў папрок у "парушэнні закона аб выбарах прэзідэнта". Але ж тое, што згаданы закон не можа быць выкананы ва ўмовах супрацьдзеяння з боку існуючай улады, было відавочна з моманту абвяшчання прэзідэнцкіх выбараў. Было, напрыклад, відавочна, што створаным апазіцыяй выбарчым камісіям не будуць выдзелены спецыяльныя памяшканні для працы. Што ім не будзе фінансавай падтрымкі з дзяржаўнага бюджэту. Што членаў камісій будуць цягаць у міліцыю, пракуратуру, КДБ пад любой штучнай зачэпкай. Што ім не дазволяць стварыць спісы выбаршчыкаў (такая спроба была бы кваліфікавана як незаконнае пранікненне ў прыватнае жыллё). Што ім не дазволяць стварыць выбарчых участкаў у звыклых для насельніцтва месцах. Што вылучаным кандыдатам не будзе дазволена выкарыстаць ні дзяржаўныя электронныя, ні друкаваныя СМІ для агітацыі. Што будуць пераследавацца незалежныя газеты, чый тыраж не дасягае і 10 працэнтаў ад тыража дзяржаўных, але чый уплыў на наша затурканае грамадства значна большы. Што магчымыя сустрэчы з кандыдатамі будуць кваліфікавацца як недазволеныя мітынгі і разганяцца міліцыяй. А самі кандыдаты будуць пазбаўленыя імунітэту, які ім дае закон.

Тое, што так будзе, разумелі ўсе, хто разумее, што такое дыктатура. І рэальная практыка правядзення выбарчай кампаніі ўсё гэта пацвердзіла. Былі арыштаваны ўсе члены ЦВК і многія члены акруговых камісій. Яшчэ больш было выкліканых у пракуратуру. Многія звольнены з працы і многія вымушаны пакінуць выбарчыя камісіі пад пагрозай страціць працу. За краты кінуты адзіны прысутны ў Беларусі кандыдат — Міхаіл Чыгір. Папярэджанні атрымалі амаль усе незалежныя газеты, якія паведамілі (!) пра выбары. Тое ж тычыцца больш дзесятка буйнейшых апазіцыйных арганізацый. Акрамя таго, арыштоўваліся і канфіскоўваліся выбарчыя бюлетэні і урны для галасавання. Рэжым акуратна выкарыстаў увесь спектр рэпрэсіўных мер супраць людзей, якія не парушалі ні аднаго закона.

І гэта азначае, што рэжым баяўся выбарчай кампаніі. Супраць яго волі аб ёй стала вядома ўсяму насельніцтву Беларусі. На гэта і разлічвалі апазіцыйныя арганізацыі, калі ў канцы студзеня на Кангрэсе дэмакратычных сіл аднадушна падтрымалі рашэнне Вярхоўнага Савета 13-га склікання аб правядзенні выбарчай прэзідэнцкай кампаніі.

Але рэалізацыя гэтага рашэння была не такой адзінадушнай, як патрабавалася для агульнанацыянальнай акцыі. Найбольш супярэчлівую пазіцыю займаў БНФ. Ён адной рукой разбураў тое, што стварыў другою. Бессэнсоўныя, але апантаныя спрэчкі аб тым, якая ініцыятыўная група сабрала больш подпісаў за свайго кандыдата, хоць закон патрабуе проста сабраць больш 100 тысяч. Не менш бессэнсоўныя патрабаванні ад ЦВК правесці галасаванне ў адзін дзень і на стацыянарных выбарчых участках, якія самі па сабе пазбаўлялі падаўляючую большасць тых, хто жадаў прагаласаваць, права голасу. Нарэшце, зняцце З.Пазьняком сваёй кандыдатуры і заклік да сяброў БНФ пакідаць выбарчыя камісіі пад маркай "фальсіфікацыі вынікаў выбараў", што ледзьве не развалілі ўсю выбарчую кампанію і не зрабіла бессэнсоўнымі ўсе ахвяры шараговых сяброў БНФ. Дадам таксама беспрэцэдэнтную практыку цытавання лукашэнкаўскім тэлебачаннем і прэсаю выказванняў некаторых кіраўнікоў БНФ для кампраметацыі выбарчай кампаніі. Складвалася ўражанне, што апазіцыя перастала быць апазіцыяй антынацыянальнаму рэжыму. Што некаторых "апазіцыянераў" больш хвалюе падзел скуры незабітага мядзведзя.

Тэзіс аб "фальсіфікацыі выбараў" асабліва цікавы. Нават краіны Еўрапейскага Саюза і ЗША добра разумелі сітуацыю, якая існуе ў Беларусі. Таму загадзя папярэдзілі, што прызнаюць юрыдычную паўнавартаснасць выбараў 16 мая немагчыма. Бо выбары не могуць быць усеагульнымі і тайнымі. Бо людзі ў сітуацыі інфармацыйнай блакады пазбаўлены магчымасці азнаёміцца з праграмамі кандыдатаў і зрабіць свядомы выбар. Але яны разумелі, што такія выбары маюць сэнс, як плебісцыт аб недаверы прэзідэнту А.Лукашэнку, праграма і асоба якога добра вядома кожнаму ў Беларусі.

Як жа могуць быць сфальсіфікаваны такія выбары? Калі не цікавіцца за каго болей — М.Чыгіра ці З.Пазьняка — пададзена галасоў? Калі імкнуцца толькі да таго, каб як мага болей выбаршчыкаў апусціла ў урну свой бюлетэнь?

Можна, зразумела, па-рознаму ставіцца да аптымістычных лічбаў, якія рэгулярна паведамляў ЦВК. Улічваючы катастрафічны недахоп грошай, натуральныя цяжкасці ў падтрыманні сувязей з рэгіянальнымі камісіямі, саму тэхналогію галасавання, выклікаюць сумненні як дакладнасць падліку, так і хуткасць апрацоўкі інфармацыі. Але адказнасць за такі спосаб камунікацыі з насельніцтвам краіны цалкам ляжыць на ЦВК і яе старшыні. В.Ганчару трэба было выбраць больш абачлівы спосаб інфармавання аб ходзе галасавання, каб не выклікаць апраўданага раздражнення. Нават у Мінску прагаласавалі далёка не ўсе, хто хацеў гэта зрабіць. Больш таго, ён павінен быў лічыцца з магчымасцю свядомай фальсіфікацыі лічбаў з боку агентаў рэжыму, якія, верагодна, прысутнічаюць сярод сяброў камісій. Іх мэта магла быць толькі адна — скампраметаваць працэдуру дэмакратычных выбараў. Зрабіць яе падобнай на лукашэнкаўскія рэферэндумы. Таму прызнанне выбараў несапраўднымі недастаткова. Камісіі стваралюцца на працяглы час. ЦВК павінна ўважліва праанализаваць свае крыніцы інфармацыі і альбо пераканацца, што фальсіфікацыі не было, альбо выдаліць з камісій людзей, што рабілі падлог.

Тым не меней, хоць і са скамечаным канцом, але плебісцыт адбыўся. І стаў ён самай моцнай, самай канструктыўнай акцыяй апазіцыі. Не толькі засведчыў вернасць многіх згвалтаванай Канстытуцыі-94, але прадэманстраваў жаданне большасці беларусаў выйсці з канстытуцыйнага крызісу мірным дэмакратычным шляхам. І гэта адкрыла, нарэшце, перспектыву для рэалізацыі прапаноў Кантрольна-назіральнай місіі АБСЕ ў Мінску. Місія даўно заклікае А.Лукашэнку сесці за стол перамоў з апазіцыяй і правесці свабодныя дэмакратычныя выбары прэзідэнта. Да гэтага патрабавання далучыліся і Злучаныя Штаты Амерыкі. Пасля 20 ліпеня палітычны стан рэжыму яшчэ больш пагоршыцца. Адбыўшаяся выбарчая кампанія пазбавіла яго магчымасці аднабакова і на сваіх умовах ажыццяўляць якія-небудзь выбары. І дала ў рукі апазіцыі моцную зброю — волю грамадства і працаздольныя структуры выбарчых камісій.

Акрамя таго, пагоршыліся перспектывы расійска-беларускага саюза. Выбары далі дастатковыя аргументы маскоўскім праціўнікам А.Лукашэнкі, якія не жадаюць пускаць яго ў расійскую палітычную прастору. Непазбежнае пагаршэнне эканамічнай сітуацыі будзе таксама прымушаць рэжым да саступак. Аднак магчымасць перамоў — гэта толькі магчымасць.

Для апазіцыі праведзеная выбарчая кампанія стала своеасаблівай "разведкай боем". Яна высветліла яе слабыя бакі — недастатковую скаардынаванасць, фінансавую слабасць і недахоп палітычнай культуры. Для БНФ яна стала ўрокам і паставіла праблему ўладкавання кіраўніцтва. Разам с тым яна паказала, як шмат у нас самаахвярных, бескарыслівых людзей. Абаранніць іх ад пераследу рэжымам — актуальная задача ўсіх апазіцыйных арганізацый.

Выбарчая кампанія паказала і неабходнасць карэкціроўкі тактыкі апазіцыі. Наша грамадства лепш адгукаецца на агульнанацыянальныя праблемы. Таму не пакідаючы вуліцу і не адмаўляючыся ад палітычных патрабаванняў, неабходна ўзмацніць барацьбу за вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем. Напрыклад, разгарнуць кампанію за адстаўку ўрада С.Лінга, які не ў стане спыніць рост цэн і падзенне жыццёвага ўзроўню. Вынікі сацыялагічных даследаванняў, якія апублікаваў прафесар А.Манаеў ("НВ" №89 ад 21.05.99г.), сведчаць, што не толькі праціўнікі рэжыму, але і яго прыхільнікі незадаволены эканамічнай сітуацыяй.

Галоўнаю сілаю ў эканамічнай барацьбе, безумоўна, з'яўляюцца прафсаюзы. Апазіцыйныя прафсаюзы знаходзяцца ў летаргічным сне. Пакуль там знаходзіцца старая прафбюракратыя, Беларусь не дачакаецца іх эфектыўных дзеянняў. Падтрымка неабходна незалежным прафсаюзам і зародышам страйкамаў. Магчымы сацыяльны выбух не павінен насіць стыхійны, разбуральны характар.

Паднясце палітычнай культуры — агульная задача апазіцыйных арганізацый і незалежнай прэсы. Нельга дапусціць, каб народны пратэст набыў эмацыянальны, а не рацыянальны характар, як гэта адбывалася ў 1991-м і 1994 гадах. Трэба адзначыць, што ў мінулай выбарчай кампаніі незалежная прэса здолела пераадолець звыклае рознагалоссе і дзейнічала заадно з апазіцыяй палітычнай. Але ўжо зараз з'яўляюцца артыкулы, дзе аўтары заяўляюць, што "наступалі на горла ўласнай песні", а заразі ужо заспяваюць на ўсю моц сваіх лёгкіх. Не будзем забываць, што амбіцый у незалежных журналістаў бывае не менш, чым у палітычных лідэраў. І калі прэса заклікае апазіцыю да яднання, то і сама павінна быць адзінай. Выбары паказалі, што гэта магчыма і што гэта не пазбаўляе прэсу права на крытыку. Гэты вопыт неабходна захаваць, бо адказнасць інтэлігенцыі за развіццё падзей у Беларусі будзе толькі ўзрастаць.

Мінулая выбарчая кампанія стварыла новую палітычную сітуацыю. Народ крыху ажыў. Пашырыліся магчымасці апазіцыі. Паўсталі новыя задачы. Неабходна захаваць дасягнутую ступень адзінства дзеянняў перад новымі выпрабаваннямі. Гэтае адзінства адкрывае свет у канцы тунэля. Чарговае выпрабаванне - 20 ліпеня, калі рэжым трапіць у стан перманентнага палітычнага крызісу, а эфектыўнасць дзеянняў Вярхоўнага Савета будзе залежыць ад сілы народнай падтрымкі.

**Юрый ХАДЫКА,**
**намеснік старшыні Беларускага народнага фронту, прафесар.**





Шаноўны спадар Мікола!

Зьвяртаемся да Вас з просьбай надрукаваць у "Беларускім Дайджэсце" зварот да падпісчыкаў газеты, нашых суайчыньнікаў.

## *Зварот Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

ТБМ аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах нацыянальна сьвядомых грамадзян, якія гуртуюцца вакол ідэі адраджэньня роднай мовы і робяць усё дзеля таго, каб надаць ёй статус адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларусі.

Апошнія два гады ТБМ выдае газету "Наша Слова" выключна на народныя ахвяраваньні. Падрыхтаваны да друку зборнік пад умоўнай назвай «Дыскрымінацыя беларускай мовы на Беларусі», распачалі працу па перакладу на родную мову мультыплікацыйных стужак для дзяцей. На сёньня акцёрамі менскіх тэатраў агучаны два фільмы – «Прыгажуня ў сонным лесе» і "Аліса ў краіне цудаў". Рэалізуем праект па насычэньні прасторы Internet беларускамоўнымі карыстальнікамі. Падрыхтаваны праект "Беларускае песеннае мастацтва", які прадугледжвае выпуск тэматычных зборнікаў беларускіх песень, з мэтай іх папулярызацыі і вывучэньня ў дзіцячых установах, студэнцкім асяродку і беларускім войску. Плануецца бясплатная рассылка гэтай літаратуры па ўсёй краіне. Рыхтуецца праект па падтрымцы беларускіх музычных выканаўцаў.

Наша арганізацыя згуртавала каля 3500 сяброў, якія здольныя выконваць пастаўленыя перад сабой задачы. Але ўсе праграмы вымагаюць значных фінансавых сродкаў, якіх як правіла не стае. Таму зьвяртаемся да нашых суродзічаў з просьбай аб разавай фінансавай дапамозе на дзейнасць ТБМ. Прозвішчы ахвярадаўцаў будуць надрукаваны ў "Нашым Слове".

Старшыня Таварыства беларускай мовы
Імя Францішка Скарыны
*Алег Трусаў*

# Канстатацыя адсутнасці прысутнасці...

«ПАГОНЯ»

## (або падставы для дзейнасці)

**Некаторыя мае знаёмыя, да якіх я звяртаўся з прапановай далучыцца да справы ўтварэння партыі «Наша Будучыня», пагаджаючыся з пералікам абставін у нашым «Звароце» якія быў надрукаваны ў пачатку года ў «Народнай Волі», усё ж адмовіліся ўвайсці ў аргкамітэт. Галоўныя прычыны, якімі яны тлумачылі сваю адмову, яны выказалі ў выглядзе пытанняў. «А чаму мы (партыя «Наша Будучыня») здолеем з'яднаць грамадзян?» «А дзе мы «знойдзем» лідара з дастатковым рэйтынгам?» Напэўна, такія ж пытанні ўзніклі ў многіх з тых, хто азнаёміўся з нашым «Зваротам». Так, гэтыя пытанні маюць пад сабой падставы і, значыць, на іх трэба адказваць. Я паспрабую гэта зрабіць. І адразу задам сустрэчныя пытанні сваім апанентам.**

Дык што, і надалей будзем моўчкі слухаць адно і тое ж («заявления, требования, предупреждения»), назіраць, як пераліваюць з пустога ў парожняе («участвовать - не участвовать, объединяться - не объединяться»), як «цягаюцца за чубы» паважаныя вучоныя і дзівіцца з іх наіўнасці? Патрабуе Грыб, патрабуе Багданкевіч і г.д. «А Васька слушает да ест». Але ж гэта мы ўжо праходзілі. Узгадайце, колькі часу апазіцыя БНФ у ВС 12-га склікання патрабавала ад камуністычнай большасці ў ВС. Адправіць у адстаўку ўрад Кебіча. Ну і чым скончылася справа? А іх (апазіцыю) папярэджвалі: не губляйце час!

Цяпер пра лідара. Дык што, можа на Беларусі ўжо не засталося сапраўднага сына, годнай дачкі сваёй Радзімы? Калі гэта так, дык трэба моўчкі разам з «бацькам» ісці пад крыло «старэйшага брата».

Але ж мы перакананыя ў тым, што на Беларусі ёсць яшчэ шмат таленавітых, разумных і ў той жа час сумленных людзей, для якіх Беларусь - гэта Маці-краіна. І «знайсці» сярод іх лідара можна. Толькі, папершае, не трэба шукаць яго сярод гаспадароў (сённяшніх ці ўчарашніх) высокіх кабінетаў. Яго трэба выбіраць з людзей, якія ў гады засілля камуністычнай ідэалогіі (у сапраўднасці двайной маралі) не прыстасоўваліся да абставін дзеля кар'еры, якія здолелі захаваць у сабе імунітэт супраць усяго агіднага, бруднага, у каго мараль не раздвойвалася, хто не хлусіў сабе і свайму народу, а таму і не мог займаць высокіх пасадаў.

Па-другое, лідара трэба выбіраць з людзей, якія сучаснае жыццё ведаюць не па даведках чыноўнікаў ад статыстыкі ці па газетных артыкулах, а з тых, хто непасрэдна сам на сабе адчувае яго подых.

Па-трэцяе, лідара трэба выбіраць з людзей, што добра ведаюць жыццё і ў горадзе, і ў вёсцы, якія ведаюць, чаго хочуць працоўныя і на што здатна наменклатура.

Карацей кажучы, «птенцы гнезда ЦК КПБ-КПСС» (першыя, другія, дзесятыя...) нам непатрэбныя. Сёння, як у Расіі, так і ў нас, народ «пажынае» плён іх дзейнасці.

Вось зараз і пагаворым пра гэты плён: пра нашу рэчаіснасць, наша жыццё.

Жывем так, як жывем, таму што:

**А: на Беларусі пры ўладзе яшчэ не было людзей адначасова і разумных, і сумленных, якія б ставіліся да Беларусі як да маці.**

Да чаго ж мы дажыліся!

Дыхаем атручаным паветрам, п'ем атручаную ваду. Практычна няма здаровых дзяцей. Маладыя маці кормяць сваіх немаўлят штучнымі сумесямі. Карацей і карцей становіцца працягласць жыцця. На дарогах, у быце ідзе сапраўдная вайна.

Крыжы, крыжы, крыжы.

Турмы, калоніі, ізалятары перапоўненыя. Толькі ў час вайны было столькі злодзеяў, рабаўнікоў, бандытаў. Народ співаецца. Пакінутыя бацькі, пакінутыя дзеці.

Спустошана Зямля!

Спустошаны душы людзей!

Што ж здарылася на нашай зямельцы? Можа, іншапланецяне столькі шкоды нарабілі? Хто ж так абязчалавечыў людзей? Хто ператварыў многіх у звычайнае быдла, якое, прабачце, паскудзіць людзям пад нос? Хто ператварыў шматлікіх хрысціян у істоты, у чыіх душах няма ніякага святога пачуцця ні да Бацькаўшчыны, ні да продкаў, ні да бацькоў, ні да сучаснікаў, ні да нашчадкаў?

Адказ толькі адзін - сістэма. Сістэма, якая пачалася з падману і крыві; сістэма, якая дзесяцігоддзі трымалася на хлусні, гвалце, крыві; сістэма, якая дзесяцігоддзямі спустошвала душы людзей, канчаткова разбэшчваючы адных (уладатрымальнікаў) і ператвараючы ў безгалосых рабоў другіх.

Тых жа, у каго душа не прымала, не мірылася з гэтай д'ябальскай сістэмай, фізічна знішчалі на Салаўках, на Калыме, у Курапатах, высылалі за мяжу, трымалі на непрыкметных пасадах, або перавыхоўвалі, «упраўляючы мазгі» ў псіхушках.

Зараз у прэзідэнцкай вертыкалі, ва ўрадзе, у так званых «нацыянальным сходзе» і «палаце прадстаўнікоў» не менш як 90% людзей, што выраслі, вылучыліся падчас панавання камуністычнай ідэалогіі. Займаць тады высокія пасады маглі людзі, якія жылі па двайной маралі, без пакут сумлення. Твар гэтых людзей добра відаць па прывілеях, якімі яны карысталіся раней, пры КПСС, і якія ўсталявалі для сябе зараз, па катэджах у «царскіх сёлах» і на «палях цудаў».

І маем мы тое, што маем. Краіна на задворках цывілізацыі, прагрэсу. Нічога, за невялікім выключэннем, людскага зрабіць не можам. Нікому наш хлам не патрэбен. Хіба толькі Расіі. Самі ж хапаем усё замежнае. А там, за мяжой, хутка зарыентаваліся: дурным можна ўсё спіхнуць.

Ну, хіба не сведчыць пра бязглуздую ўладу тое,

што маючы неабмежаваныя запасы будаўнічых матэрыялаў (лес, жвір, гліна ды інш.) ніяк не вырашыцца жыллёвая праблема;

што маючы не менш як па 1 га ворнай зямлі на чалавека, прыдумалі для гараджан дачныя надзелы як выйсце з дэфіцыту гародніны, садавіны;

што зараз італьянскія фірмы вядуць рэканструкцыю галоўнай шашы краіны Брэст-Менск-Масква.

Пералік прыкладаў можна працягваць вельмі доўга.

А жыццёвы ўзровень нашых грамадзян? Пра што ён сведчыць?

Але спісваць усю рэчаіснасць нашага жыцця толькі на дурноту ўлады нельга.

**Б: Беларускі народ яшчэ не прачнуўся, яшчэ не развітаўся са страхам, яшчэ не адчуў сябе свабодным, яшчэ не захацеў «людзьмі звацца».**

А гэта грэх. Грэх чалавеку не быць Чалавекам. А таму, як гэта шмат гадоў таму сцвярджаў выдатны беларускі пісьменнік Ул.Караткевіч, Бог пакараў беларусаў, сказаўшы: «Я дам ім самае горшае ў свеце кіраўніцтва». І вось, зыходзячы з усяго вышэй сказанага, зыходзячы з канстатацыі нашай рэчаіснасці, аргкамітэт будзе планаваць сваю дзейнасць.

А для таго, каб быць упэўненымі у поспеху сваёй дзейнасці, нам варта ўсвядоміць і пастаянна памятаць прычыны, з-за якіх беларускія дэмакраты так і не здабылі перамогі. Як ні дзіўна, але даводзіцца зноў канстатаваць, што даўно вядомае «страшно далеки они от народа» і сёння ёсць галоўная прычына. Дзіўна таму, што сталічныя лідары апазіцыі не могуць не ведаць пра гэтую аксіёму. Ды яшчэ і таму, што час ад часу ім і нагадвалі аб гэтым. Як, напрыклад, А.Канцэвіч у сваім артыкуле «Те же самые грабли» **(«Народная Воля» ад 19.05.98 года).** Вось што ён напісаў: «Демократический приход к власти - это выборы. А как же демократы могут придти к власти, если они далеки от народа? Когда-то народники ходили в народ и просвещали его, а теперь? Будем честны: та «высшая математика», которая исходила из Верховного Совета 12 созыва не доходила до массового сознания. И тогда, и теперь заумные «учёные» статьи в газетах непонимаемы большинством». І яшчэ: «А между тем убедить одного «простого человека» в необходимости демократических перемен были бы куда пользительней, чем провести многотысячный митинг среди «единоверцев».

Ці многа змянілася з таго часу? На маю думку, амаль нічога. Пагартайце сённяшнія незалежныя газеты. Галоўныя тэарэтыкі праграм, планаў апазіцый прапануюць усё тыя ж, занадта разумныя словазлучэнні накшталт «расщеплённый атом недовольства», «режим стагнации», «прививка легитимности», «политическая тусовка», «политический тяжеловес» і г.д. і г.д. Высвятляецца, што: «Мы долго и много говорили правильные слова и лозунги. Мы искренне жалели народ и страну. Но при этом думали о себе. О своей партии, о своей тусовке, о собственном отражении в зеркале истории. Пришло время подумать о Белоруссии» **(А.Лебедько: «Оппозиция: реальность и перспективы» - «БМ» N2, 1992 г.).**

Вось як! Толькі зараз збіраюцца думаць пра Беларусь.

І тое, што яны (лідары апазіцыі) «долго и много правильно...» і думалі, і гаварылі, ніяк не стасуецца з рэчаіснасцю. Каб гэта было так, і вынік быў бы іншым.

Калі добра паразважаць, дык можна прыйсці да высновы: лепшых вынікаў ад дзейнасці сённяшніх лідараў апазіцыі і быць не магло.

Па-першае, як заўважалася вышэй, яны «страшно далеки от народа». Мала таго, што яны ў прамым сэнсе «далеки от народа»: слаба ведаюць жыццё рабочых, сялян, іх турботы (усё зводзіцца да фіксацыі заробкаў, цэнаў), дык яшчэ раз'язджаюць па замежжы. Шукаюць там рэцэпты вырашэння нашых надзённых праблемаў. А гэта, пры адпаведнай ідэалагічнай апрацоўцы, успрымаецца вельмі негатыўна.

Па-другое, многія з іх былі ў камандзе Лукашэнкі. Гэта сведчыць, пра тое, што яны альбо не вельмі разбіраюцца ў людзях, у справах, за якія ўзяліся, альбо дзеля кар'еры здольныя, у залежнасці ад абставін, на чарговае «превращение».

Вось і сёння лідары БСДП (НГ), БСДГ заявілі аб падтрымцы М.Чыгіра ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. У сувязі з гэтым нельга не нагадаць недалёкае мінулае. 20 снежня 1994 года на сесіі Вярхоўнага Савета С.Антончык выступіў з дакладам «Аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта». М.Чыгір, як пераканаўча вынікае з даклада, з'яўляўся адной з уплывовых фігур мафіёзных структураў таго часу. Адразу ж паўстае пытанне. Як іх (лідараў) разумець? А мабыць, правільней - як іх назваць? Ці яны, можа, нічога не ведаюць пра той даклад? А мо ў ім, прабачце, туфта? Тады гэта зноў жа не ўпрыгожвае апазіцыю. І ці можна з такімі хібамі разлічваць на давер, на падтрымку думаючага выбаршчыка?

Па-трэцяе, многія з іх няздольныя спрагназаваць паводзіны Лукашэнкі, хаця, падкрэсліваю яшчэ раз, былі ў адной камандзе ці працавалі побач.

Той жа А.Лябедзька год таму пісаў: «Кто бы что ни говорил, но выборы главы белорусского государства, по-моему, состоятся в 1999 году. Это соответствует не только требованиям легитимной Конституции, но и отвечает интересам политика Лукашенко» **(А.Лебедько: «Бел. опозиция: что день грядущий нам готовит» - «НВ» 3.02.1998 г.).**

Г.Карпенка таксама спрабаваў спрагназаваць. У красавіку 1998 года ён пісаў: «Для меня совершенно ясно, кому и зачем нужны сегодня выборы в парламент Белорусии, почему президент инициирует разговоры на эту тему. Нужны досрочные выборы прежде всего президенту и его окружению» **(«НВ» 23.04.98 г.).**

А ў студзені 1999 года А.Лябедзька ўжо піша: «Сценарий «президентские выборы 1999 года» явно не стыкуется с планами Александра Григорьевича» **(«БМ» N2 1999 г.).** І пра выбары ў парламент нічога не чуваць. Атрымліваецца, што Лукашэнка нашых лідараў «водзіць за нос», як малых дзяцей.

А ці можна, чакаючы прыходу гасцей, адпаведным чынам сустрэць «візіт» рабаўнікоў?

Вельмі яскравым, на маю думку, фактам адсутнасці здольнасці цвяроза ацэньваць стан рэчаў, здольнасці інтуітыўна прадбачыць будучыню з'яўляецца зварот трох былых старшыняў Вярхоўнага Савета Шушкевіча, Грыба, Шарэцкага да прэзідэнта Расіі. Я маю на ўвазе іх «Открытое письмо Его Превосходительству Президенту Российской Федерации Ельцину Б.Н.». Вось дзе сапраўды, «было бы смешно, если б не было так грустно». Хіба не становіцца сумна ад таго, што бачыш, як прафесары, генералы зноў лезуць на тыя ж самыя граблі. Гэта ж ужо было (Селязнёў, Чарнамырдзін). Знайшлі заступніка! Ды дзеля захавання сваёй улады ён (Ельцын) гатовы дамовіцца з самім д'яблам. Ну няўжо не чулі, шаноўныя, што заявіў, знаходзячыся пасля падпісання дамоўленасцяў, на эмацыянальным пад'ёме, Лукашэнка? Нагадваю. «А власть мы поделим». І хіба не ведаюць, паважаныя, што І.Рыбкін ужо на пасаду прэзідэнта Саюза прапанаваў Ельцына. Ну, а на расійскі трон добра вядома, хто меціць. А потым (улічваючы стан здароўя Ельцына), і саюзны трон не за гарамі.

І ўвогуле, хіба ёсць у Расіі палітыкі, якія адмовяцца ад такога падарунка, як Беларусь?

Падсумаваўшы ўсе разважанні, усе факты становяцца зразумелымі, чаму такія мізэрныя рэйтынгі маюць сёння лідары апазіцыі. нядаўна «Народная Воля» паведаміла вынікі сацыялагічнага апытання жыхароў Менска. На галоўнае пытанне часу: «Што, калі б выбары прэзідэнта былі сёння?..», адказы атрымаліся наступныя:

34% - не бачаць дастойных кандыдатаў;

25% - не змаглі адказаць (хутчэй за ўсё па той жа прычыне. - А.К.);

9% - не пойдуць на выбары (напэўна, няма з каго выбраць. - А.К.);

6% - супраць усіх (зноў няма дастойных. - А.К.);

15% - за Лукашэнку;

3% - за Пазьняка;

па 2% - за Чыгіра, Шушкевіча;




IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

**ІРЭНА ЧАРНЭЦКА-ГАЙДЗЕЛЬ**

**сьнежань 1923 — травень 1999**

2-га травеня 1999 г. адыйшла ў вечнасьць, пасьля доўгае хваробы, сьв. памяці Ірэна Чарнэцка-Гайдзель. Пахавана ў Чыкага.

Сьв. памяці Ірэна нарадзілася ў мястэчку Ляхавічы каля Баранавічаў. Нябожчыца пакінула ў смутку дачку Ванду і сыноў Янку і Паўла, а таксама сястру Ванду Махнач у Чыкага і брата Юрку Чарнэцкага ў Віскансін.

Няхай пухам будзе Ёй амэрыканская зямля.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!




IN MEMORIAM

Сьв. Памяці

**ВІКТАР ШЧЭРБА (ЧЭІР)**

пасьля цяжкой хваробы, адыйшоў у вечнасьць 26-га травеня 1999 году на 80-ым годзе жыцьця.

Сьв. пам. Віктар Шчэрба радзіўся каля Оршы. Пахаваны на Галівуд Мэморыял Гардэнс, Флярыда, ЗША.

Нябожчык быў сталым чытачом нашае газэты і ахвярадаўцам у яе выдавецкі фонд.

Спачуваньні Ўсім Яго родным і блізкім.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!




IN MEMORIAM

16-га травеня 1999 г. у Таронце, Канада, адыйшоў у вечнасьць сьв. памяці

**МІКОЛА ГАНЬКО**

Нябожчык Мікола быў ведамым палітычным і рэлігійным беларускім дзеячам у Канадзе. **Вечная Памяць!**

## СЁЕ—ТОЕ...

Апошнім часам пачалі зьяўляцца ў прэсе адважныя выказваньні адносна спосабаў барацьбы за беларускую незалежнасьць і дзяржаўнасьць. Вось адно з такіх выказваньняў-заклікаў падпісаным "незалежнымі вэтэранамі вайны і працы г. Магілёва". Друкуем урыўкі...

...Усё што творыцца ў Беларусі ад выбараў Лукашэнкі ў прэзыдэнты ня можа нас не насьцярожваць.

Дык вось, спадары, не спадзявайцеся атрымаць ад Лукашэнкі ўладу. Вы яе не атрымаеце. Лукашэнка з тых, хто пачынае разумець толькі тагды, калі дастаюць па зубах. А гэтага пакуль ніхто не зрабіў...

Мы перакананыя, што тэрор можна спыніць толькі прымяняючы адэкватныя меры. Так, спадары, лідэры партыяў і аб'яднаньняў памятайце разумную дзедаўскую прыказку, — "Клін выбіваюць клінам". Трэба неадкладна арганізаваць строга засэкрэчаныя баявыя дружыны, якія пры патрэбе атрымаюць усебаковую падтрымку з-за мяжы. Гэтыя дружыны мусяць быць мабільнымі і добра вышкаленымі... Напрыклад, каб вызваліць ген. Ю. Захарэнку трэба ў якасьці заложніка ўзяць лукашэнкаўца Бажэлку, і тады дыктаваць свае дамаганьні... Вы скажаце, што гэта-ж грамадзянская вайна. Грамадзянская вайна непазьбежная... А можа вы згодныя стаць рабамі? Грамадзянскую вайну мы можам абмінуць калі сілаю выкінем Лукашэнку... Іншага шляху няма...

## New Belarusian dictionary comes out

The Pyatrus Browka Belarusian Encyclopedia publishing house has printed 5,000 copies of a new Belarusian explanatory dictionary. The one-volume edition has on its pages more than 65,000 entries. It was compiled by linguists of the Yakub Kolas Linguistics Institute of the Belarusian National Academy of Sciences and edited by Mikhail Sudnik, a corresponding member of the Academy of Sciences, and Nikolai Klevko, a leading specialist of the Institute. The preface says that the 5-volume Belarusian dictionary, published in 1977-1984, has become a bibliographic rarity and there was a need to compile a new one-volume compact dictionary.



## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 205. Надзя Бэрт | (Нямеччына) | $20.oo |
| 206. Ліда Альмендынгер | (Нямеччына) | $50.oo |

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступных №№ нашае газэты...

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.

**Усіх тых людзей добрае волі, хто дасюль яшчэ не пераслаў свае ахвяры, ветліва просім не адкладаць гэтую справу на пазьней, а выслаць ахвяру яшчэ сёньня... Дзякуем!**

*Уладзімір ІГНАТОВІЧ, патомны селянін.* «НАРОДНЯВ ВОЛЯ»

## "Што ж вы, мужыкі, усё ў пазавуголлі..."

...Людзі прывыклі да цяжкіх умоў жыцця і трымаюцца іх як авечкі свайго хлява, нават у час пажару. Жыццё такое, што людзям яно стала абрыдлым і абыякавым. Ляжыць дабро безгаспадарча — няхай ляжыць, гніе — няхай сабе гніе. Гарыць нешта — няхай гарыць, не маё. Лупцуюцца п'яныя мужыкі сярод вуліцы, рэдзяць плот — няхай "размінаюцца". А што вы хочаце? Прэзідэнт узяў курс нашага жыцця ў мінулае, дзе вельмі ходавой была прыказка: "Твае-маё — калгаснае".

Цяпер ні сваё не берагуць, ні чужое, ні калгаснае (нічыё). Адно аднаго паважаць развучыліся, нянавісць да чалавека веяць пачало, зайздрасць душу раздзірае. Усё вяртаецца назад, усплывае тое, што, здавалася б, і пахавана назаўсёды. І ўлада тая ж, што некалі была. Усе ранейшыя бюракраты яшчэ з савецкіх часоў сядзяць, як старыя грыбы, на ранейшых месцах, гэткія бюракраты — "дэмакраты", ад якіх дэмакратыі як ад казла малака. Раней хоць КПСС была са сваімі пярвічнымі арганізацыямі. Можна было таго-сяго заклікаць да парадку, да партыйнай дысцыпліны і сціпласці, выцягнуць на партыйны сход, на парткам, райкам. Скаргу напісаць у партыйныя органы, то была яшчэ такая-сякая спадзеўка, што, можа, каму і дадуць па загрыўку. А цяпер?

"Вертыкаль" для нас недаступная і недатыкальная. Гэта — парафія прэзідэнта. Ён яе стварыў, ён і начальнік. Мы яе не выбіралі і ўздзеяння ніякага не маем. Вось і выходзіць, што ў нас, здавалася б, і народная ўлада, а народ — без улады. Сядзіш, так бы мовіць, у лазні ў Піліпаўку, а яна не палена яшчэ з леташніх Каляд! А прэзідэнт наш час ад часу пакажацца на блакітным экране, паб'е сябе ў грудзі, што быццам бы не дасць просты народ у крыўду, выцера насоўкай пот з ілба, і памінай як звалі!

Вы там, у "Народнай волі", часта пішаце, што жыхары вёскі — гэта людзі цёмныя, затурканыя і жывуць, як скаціна. Ім дадуць, як адчэпнага, крышачку пенсіі, трошачкі зарплаты, дык яны гатовы скакаць ад радасці. Гэта святая праўда! Ды і сярод гарадскіх шмат такіх, што з вёскі паўцякалі. Вы ж паглядзіце, хто на мітынгах, дэманстрацыях, шэсціях супраць рэжыму выступае. Думаеце, нядаўнія былыя вяскоўцы туды валам валяць?! Як бы не так! Іх вы больш знойдзеце там, дзе натоўп з чырвонымі сцягамі падтрымлівае прэзідэнта, рэжым, прыгоннае права на вёсцы.

Але душа баліць, калі бачыш, што меншаюць рады змагароў у калонах дэманстрантаў супраць рэжыму, супраць шляху ў светлае мінулае. Чаму людзі, нават гарадскія, ніяк не зразумеюць: ніхто ім шчаслівае жыццё на талерачцы не прынясе. За шчасце, дабрабыт, волю трэба змагацца! Я, вядома, не заклікаю хапацца за вілы і сякеры, за драбавікі ці абразанкі, але дух павінен ажывіцца! Той дух, што сілкуе смеласць, мужнасць, розум, здольнасць думаць і разумець, што тут да чаго. А ў нас часам духу хапае паабурацца начальствам тутэйшым і вышэйшым толькі ў пазавуголлі. І п'юць у пазавуголлі, і мочацца, і шахер-махер... На людзях — адно, па-за вочы — другое. Вось такая наша смеласць, а дакладней — двурушнасць. А з двурушным чалавекам лепей згубіць, чым знайсці. Ці, можа, не так я кажу?

Тыя, хто сёння намі кіруюць, раней за КПСС сцяной стаялі, гатовы былі за ўсякую драбязу цябе з г... змяшаць, са свету зжыць. А потым, пры Кебічы? Таксама гарой за яго стаялі, затапталі нагамі Шушкевіча, лёталі па вёсках, хадзілі па хатах са скрынямі для галасавання, выкленіваючы ў вяскоўцаў галасы за свайго "патрона". А сёння ўсе яны пры Лукашэнку. І зноў гарой, і зноў сцяной, і зноў з кулакамі, з раз'юшанай ахвотай за яго ў агонь і ваду. Нават гатовыя лоб разбіць... на людзях. А пазавуголлі, за чаркай у цеснай кампаніі, у парылцы, дзе КДБ не рызыкне падслухаць, на лясной палянцы або ля вядра юшкі на беразе ракі: і тое не так "бацька" робіць, і гэта не так, узяў у клешчы, што аж рэбры трашчаць, ды і наогул...

Пішу гэтая словы вам, журналістам "Народнай волі", не для таго, каб вы паспрыялі нешта выправіць, а пішу для таго, каб вяскоўцы нашы прачыталі гэта ды хоць трошкі за патыліцай пачухалі. Хоць горкая гэтая праўда, але ж праўда такая, якой яна на самай справе выглядае.

Можа, прыедзе і да мяне, як ужо з некаторымі было, такімі "журналістамі" як я, упаўнаважаны КДБ, каб правесці са мной так званую "гутарку". Няхай сабе прыязджае. За стол запрашу, чарку пастаўлю, яечні насмажу. Пасядзім, пагаворым. Ну што ён мне зробіць? Я ж, як і ён, за народаўладдзе, за канстытуцыйны лад, за талковы парадак у краіне, за лепшае жыццё для нас, вяскоўцаў. На развітанне, спадзяюся, паціснем адзін аднаму руку. Ён жа таксама за тое. Пры мне, упэўнены, менавіта пра гэта будзе сцвярджаць. А ў пазавуголлі? Хто ж яго ведае... Вось як сустрэнуся і калі не павязе ён мяне з сабой, то напішу тады вам дадаткова...

Гэта такі вось мой край, наша наваколле, на фоне якога я раскажу вам пра з'явы, якія ў нас адбываюцца і якія прымушаюць нас быць тымі авечкамі, якія трымаюцца свайго хлява.

**в.Сліжы**
**Лідскага раёна.**

## ... і яшчэ СЁЕ—ТОЕ...

Як паведамляе газэта "Бабруйскі кур'ер", курс аднаго амэрыканскага даляра на чорным рынку на 30 чэрвеня 1999 г. выносіў 460.000 бел. рублёў. У іншых местах Беларусі, цана аднаго даляра на чорным рынку вагаецца між 440.000 і 470.000 бел. рублёў. Лукашэнка высьцілае дарогу ў "сьветлую будучыню" беларускімі рублямі...

## З АРХІЎНАГА КУФРА...



Натальля Арсеньнева з школьнай моладзьдзю ў Нью Ёрку, 60-я гады.

*Калі ласка,*
**падтрымайце нашую газэту!**